Т. М. Чабатарэўская   В. У. Нікалаева

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У 2 частках

Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Мінск «Народная асвета» 2016

УДК 51(075.2=161.3)
ББК 22.1я71
Ч-12

Пераклад з рускай мовы *Н. М. Алганавай*

Рэцэнзент
дацэнт кафедры прыродазнаўчых дысцыплін установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка», кандыдат педагагічных навук *Т. М. Канашэвіч*

## Умоўныя абазначэнні:

 — новая тэма

 — параўнай

 — выберы патрэбнае дзеянне

 — кругавыя прыклады

* — творчае заданне

**Чабатарэўская, Т. М.**

Ч-12 Матэматыка : вучэб. дапам. для 2-га класа ўстаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 1 / Т. М. Чабатарэўская, В. У. Нікалаева ; пер. з рус. мовы Н. М. Алганавай. — 2-е выд., выпр. і дап. — Мінск : Народная асвета, 2016. — 127 с. : іл.

ISBN 978-985-03-2568-6.

**УДК 51(075.2=161.3)**
**ББК 22.1я71**

**ISBN 978-985-03-2568-6 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-03-2570-9**

## Змест

Паўтарэнне 4

Таблічнае складанне і адпаведныя выпадкі аднімання 20

Лікі ад 21 да 100 66

Пазатаблічнае складанне і адніманне лікаў у межах 100 92

## Паўтарэнне

**1**




Назаві найменшы і найбольшы адназначныя лікі. Чаму яны называюцца адназначнымі?

**2** ≥ ≤ =

2 * 0 1 * 9 3 * 7 0 * 1

5 * 4 2 * 8 9 * 6 6 * 4

**3** Рашы прыклады і расшыфруй пажаданне кожнаму з вас.

| | |
|---|---|
| Х | 6 + 2 – 0 |
| П | 9 + 1 – 4 |
| Ў | 8 + 2 – 6 |
| О | 9 + 0 – 7 |
| Е | 8 – 6 + 3 |

| | |
|---|---|
| С | 7 – 1 + 3 |

| | |
|---|---|
| А | 7 + 3 – 7 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 2 | 9 | 6 | 5 | 8 | 3 | 4 |
| | | | | | | | |

**4** У школьных спаборніцтвах па бегу прынялі ўдзел 4 дзяўчынкі і 5 хлопчыкаў. Колькі вучняў з класа ўдзельнічала ў школьных спаборніцтвах па бегу?

**5** Знайдзі суму найменшага і найбольшага адназначных лікаў і іх рознасць. Параўнай іх.

**6*** На прыпынку ў аўтобус зайшлі 9 чалавек, а выйшлі 5. Як змянілася колькасць пасажыраў у аўтобусе?




**7** Назаві геаметрычныя фігуры.



**8** ☐ $+ 2 = 5$ Якія з лікаў 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7 трэба падставіць у акенцы, каб запісы былі правільнымі?

☐ $+ 2 > 5$

**9** Брату 8 гадоў, а сястра на 3 гады маладзейшая. Колькі гадоў сястры?




**10** (>, <, =)

$1 + 2 * 5$ $4 + 5 * 9$

$2 + 2 * 5$ $3 + 4 * 7$

## Урок 2

**1** Патлумач прыёмы вылічэнняў.

$\frac{7+2=9}{7+1+1}$ $\frac{5+4=9}{5+2+2}$ $\frac{9-2=7}{9-1-1}$

$\frac{9-3=6}{9-1-2}$ $9-6=3$ ($6+3$) $\frac{6+3=9}{6+2+1}$

**2** Дадай кожны лік часткамі.

$3+4=\square$ (2, 2) $2+5=\square$ (2, $\square$) $6+3=\square$ ($\square$, $\square$)

**3** Патлумач прыём складання і вылічы паводле ўзору.

$\frac{2+6=8}{6+2=8}$

$1+2$ $3+5$ $2+7$ $1+9$

$2+6$ $3+6$ $3+7$ $1+8$

**4** Мама спякла 10 піражкоў. Колькі піражкоў засталося пасля таго, як 8 піражкоў з'елі?

| Было | З'елі | Засталося |
|---|---|---|
| 10 | 8 | ? |

**5** Палічы чатырохвугольнікі. Аднімі адну палачку так, каб засталося тры чатырохвугольнікі.



**6** Вусна. Дапоўні лікі 4, 5, 6, 7, 8, 9 да 10.

**7** Складзі задачы, якія рашаюцца так: $6 + 3 = 9$.

**8*** Якія фігуры паказаны злева і справа? Чаму яны так называюцца?



**9** Вылічы.

$3 + 2 + 3$ $4 + 2 + 2$ $7 + 1 + 2$ $6 + 1 + 3$

$3 + 4 + 3$ $5 + 1 + 3$ $8 + 1 + 1$ $2 + 3 + 5$

**10** Вучні пасадзілі каля школы 6 бяроз і 2 ліпы. Колькі ўсяго дрэў пасадзілі?

**11** Вылічы.

$4 + 5$ $5 + 3$ $7 - 4$ $10 - 3$

$9 - 4$ $8 - 3$ $6 - 3$ $10 - 8$

# Урок 3

**1** Назаві найменшы двухзначны лік. Як ён атрымаўся? Назаві ўсе лікі другога дзясятка.




**2** Назаві лікі.

| Дзяс. адз. | Дзяс. адз. | Дзяс. адз. | Дзяс. адз. |
|---|---|---|---|
| | | | |

**3** Знайдзі прапушчаныя лікі.

13 = □ дзяс. □ адз.    10 = □ дзяс.

17 = □ дзяс. □ адз.    20 = □ дзяс.

15 см = □ дм □ см    10 см = □ дм

**4** Вылічы.

13 – 3    10 + 4    20 – 3    17 – 4

17 – 7    10 + 8    13 – 2    19 – 5

**5** Складзі задачу па кароткім запісе і рашы яе.

 15

 ?, на 3 менш



**6**



10 + 5 + 2

10 + 7 = 17



Выкарыстай гэты прыём пры рашэнні прыкладаў.

| | | |
|---|---|---|
| 10 + 5 + 3 | 10 + 4 + 1 | 10 + 2 + 1 |
| 10 + 7 + 1 | 10 + 3 + 2 | 10 + 1 + 3 |
| 10 + 2 + 4 | 10 + 6 + 2 | 10 + 2 + 2 |

**7*** Вусна. У якіх пунктах чарапаха рабіла прыпынкі? У які пункт яна прыпаўзла?






(2, 1)






(. , .)

**8** Складзі задачу па рысунку і рашы яе.




**9** Складзі прыклады па табліцы і рашы іх.

| +3 | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 5 | 14 | 2 | 10 | 0 | 7 | 11 |
| | | | | | | | |

## Урок 4

**1** Запішы лічбамі лікі па нарастанні: 1 дзяс. 7 адз.; 1 дзяс. 9 адз.; 8 адз. 1 дзяс.; 2 дзяс.

**2** (>, <, =)

| | | |
|---|---|---|
| 0 * 8 | 14 * 10 | 3 + 7 * 7 + 2 |
| 5 * 9 – 4 | 4 + 2 * 6 | 2 + 6 * 6 + 3 |

**3** Нарысуй адрэзак на 1 дм карацейшы за адрэзак даўжынёй 14 см.

**4*** 





На адной талерцы 4 яблыкі, а на другой — 1 яблык. Трэба перакласці ўсе яблыкі на адну талерку. Як гэта можна зрабіць найбольш зручным спосабам?



**5** Сяргею 5 гадоў, а Наташа на 3 гады старэйшая за яго. Колькі гадоў Наташы?

**6** Запішы па спаданні:
5 см; 1 дм; 2 дм 1см; 19 см; 2 дм; 2 см.

**7** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 10 – 4 | 2 – 0 | 3 + 10 |
| 19 – 3 | 4 + 0 | 5 – 5 |
| 4 + 6 | 12 – 2 – 6 | 14 – 4 – 7 |

**8** Знайдзі патрэбныя лікі.

12 см = ☐ дм ☐ см

1 дзяс. 1 адз. = ☐ адз.

18 = ☐ дзяс. ☐ адз.

1 дм 7 см = ☐ см

1 дм = ☐ см

20 см = ☐ дм

**9** Якія лікі прапушчаны?

19 – 8 = ☐ → ☐ + 7 = ☐ → ☐ – 6 = ☐ → ☐ + 5 = ☐ → ☐ – 4 = ☐ → ☐ + 3 = ☐

**10** На стале ляжыць 11 сшыткаў. 10 з іх — у клетку, астатнія — у лінейку. Колькі сшыткаў у лінейку?



**11** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 9 – 5 | 8 + 2 + 4 | 18 – 8 |
| 7 + 10 | 4 + 3 | 14 – 4 – 3 |

## Урок 5

**1** Як называюцца лікі пры складанні? Як знайсці першае складаемае; другое складаемае? Для кожнага прыкладу на складанне запішы па два прыклады на адніманне паводле ўзору.

Узор. $4 + 2 = 6$

$6 - 4 = 2$

$6 - 2 = 4$

$7 + 3 = 10$

$10 + 2 = 12$

$14 + 1 = 15$

**2** У якой пасудзіне змесціцца больш за ўсё соку?




**3**




**4** У вазе было 6 яблыкаў, а груш — на 10 больш. Колькі было груш?



**5*** Саша паставіў у рад 5 машынак. Адлегласць паміж суседнімі машынкамі 4 дм. Якая адлегласць паміж крайнімі машынкамі?



**6** Складзі прыклады па табліцы і рашы іх.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 5 | 3 | | 1 | 12 | | 18 |
| Складаемае | 4 | | 8 | | 2 | 1 | 2 |
| Сума | | 10 | 10 | 9 | | 20 | |

**7** Якія фігуры не з'яўляюцца многавугольнікамі?




**8** Складзі задачу па рысунку.




**9** Складзі з кожнага прыкладу на складанне па два прыклады на адніманне і рашы іх.

3 + 5 10 + 3 7 + 2 10 + 2

## Урок 6

**1** Як называюцца лікі пры адніманні? Як знайсці невядомае памяншаемае; аднімаемае? Складзі прыклады па табліцы і рашы іх.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Памяншаемае | 9 | | 12 | 20 | | | 20 |
| Аднімаемае | 3 | 2 | | | 11 | 19 | 3 |
| Рознасць | | 4 | 10 | 10 | 2 | 1 | |

**2** З лікаў 0, 20, 11, 2, 7, 15, 10, 12 выпішы спачатку адназначныя, а потым — двухзначныя лікі. Запішы іх па нарастанні.

**3** Нарысуй адрэзак на 3 см даўжэйшы за дадзены.



**4*** Па закадзіраваных правілах 1 і 2 назаві фігуры, якія трэба паставіць замест знака «?».




→ ? → ?

→ ? → ?




→ ? → ?

→ ? → ?

**5** Пры дапамозе рысунка складзі задачы, якія рашаліся б так:

10 + 8    18 – 8    18 – 10




**6** Якіх лікаў не хапае?







**7** 10 – 6 * 10 – 8    12 – 2 * 12 – 3

3 + 7 * 3 + 9    18 – 4 * 12 + 2

1 дм 5 см * 2 дм    1 дм * 10 см

**8** У гаражы стаяла 3 грузавыя машыны. Прыехала 10 легкавых машын. Колькі машын стала ў гаражы?




**9** Вылічы.

10 + 2    14 + 4    18 + 2    7 + 3 + 6

12 – 2    14 – 4    20 – 2    6 + 4 + 9

## Урок 7

**1** Нарысуй два адрэзкі: першы — даўжынёй 6 см, а другі — на 2 см даўжэйшы за першы.

**2** Вымерай адрэзкі. Вынікі вымярэнняў запішы па нарастанні.



**3** На паднос паклалі 4 пернікі, 5 сухарыкаў, а пячэння столькі, колькі пернікаў і сухарыкаў разам. Колькі пячэння паклалі на паднос?

**4** Выканай дзеянні.

| | |
|---|---|
| 12 см + 3 см | 1 дм 2 см + 7 см |
| 19 см – 6 см | 1 дм 8 см – 1 дм |

**5*** Колькімі спосабамі можна скласці набор з двух прадметаў?



**6** Знайдзі масу пакета з цукеркамі.




**7** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 10 – 7 | 18 – 3 | 9 + 1 – 4 |
| 5 + 4 | 17 – 7 | 12 – 2 + 5 |
| 6 + 0 | 10 + 3 | 3 + 7 – 6 |

**8** Складзі прыклады па рысунку так, каб сума лікаў была роўна 10.




**9** З паліцы спачатку ўзялі 14 кніг, а потым яшчэ 3 кнігі. Колькі ўсяго кніг узялі з паліцы?

**10** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 12 – 10 * 8 – 6 | 7 + 3 * 2 + 7 |
| 16 – 10 * 6 + 0 | 3 + 4 * 9 – 6 |

# Урок 8

**1** На адной галінцы 3 шышкі, а на другой — 4. Колькі шышак на дзвюх галінках?

Складзі па рысунку дзве задачы, якія рашаюцца дзеяннем аднімання.



**2** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 8 – 4 + 1 | 17 – 10 + 3 |
| 7 – 5 + 2 | 20 – 10 – 10 |
| 9 – 3 + 3 | 18 – 10 + 2 |
| 10 – 7 + 5 | 14 – 10 + 10 |

**3** Нарысуй адрэзак на 4 см даўжэйшы за дадзены.



**4** 

| | |
|---|---|
| 3 – 3 * 1 | 12 + 2 * 18 – 4 |
| 5 + 4 * 4 | 9 + 1 * 1 дзяс. |
| 7 + 3 * 3 + 7 | 16 + 3 * 1 дзяс. 6 адз. |

**5** Знайдзі патрэбныя лікі.

| | |
|---|---|
| 1 дм = ☐ см | 1 дм 6 см = ☐ см |
| 2 дм = ☐ см | 18 см = ☐ дм ☐ см |

**6*** У Юры, Дзімы і Колі жывуць сабакі: пудзель, такса і аўчарка, па аднаму ў кожнага хлопчыка. У Дзімы — не такса, у Юры — не аўчарка і не такса. Які сабака ў Колі?



**7** Вылічы.

10 кг – 3 кг       7 см + 3 см

10 л – 3 л       7 л + 3 л

**8** Каця зафарбавала 8 см папяровай стужкі ў жоўты колер і 12 см — у блакітны колер. Знайдзі даўжыню стужкі.




**9** Вылічы зручным спосабам.

| | | |
|---|---|---|
| 4 + 4 + 6 | 1 + 6 + 4 | 4 + 2 + 6 |
| 5 + 3 + 5 | 3 + 4 + 6 | 3 + 5 + 7 |
| 1 + 7 + 9 | 4 + 3 + 7 | 2 + 3 + 8 |

# Таблічнае складанне і адпаведныя выпадкі аднімання

**1** Каця жыве на 15-м паверсе, а Пеця — на 4 паверхі ніжэй. На якім паверсе жыве Пеця?

**2** (>, <, =)

3 + 7 * 7 12 см * 1 дм

8 – 2 * 8 1 дзяс. * 1 дзяс. 6 адз.

10 + 2 * 10 – 2 13 * 1 дзяс. 3 адз.

**3** Складзі прыклады і рашы іх.







**4*** У Тані было 7 алоўкаў. Яна дала брату на 1 аловак больш, чым пакінула сабе. Колькі алоўкаў засталося ў Тані?

**5** Якіх лікаў не хапае?

2 дм = ☐ см 1 дзяс. 1 адз. = ☐ адз.

16 см = ☐ дм ☐ см 1 дзяс. = ☐ адз.

**6** Вымерай адрэзкі. Нарысуй адрэзак, даўжыня якога роўна рознасці даўжынь дадзеных адрэзкаў.



**7** У гаспадарцы ў бабулі было 10 курэй, 7 качак і 1 кошка. Колькі хатніх жывёл у бабулі?







**8** Колькі на рысунку нетрохвугольнікаў; чатырохвугольнікаў?



**9** Вера і Міша ўзялі са стала 6 яблыкаў і 2 апельсіны, а груш — столькі, колькі яблыкаў і апельсінаў разам. Колькі груш узялі дзеці?

**10** Выпішы ў адзін слупок сумы, а ў другі — рознасці. Вылічы іх.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 + 9 | 10 – 9 | 16 + 3 | 10 + 2 |
| 4 + 6 | 19 – 8 | 18 – 4 | 15 – 5 |

# Урок 10



Параўнай задачы і іх рашэнні.

**1.** За лета Таня прачытала 8 кніг, а Оля — на 3 кнігі менш. Колькі кніг прачытала Оля?

Рашэнне.

8 – 3 = 5 (кн.)

**2.** За лета Таня прачытала 8 кніг, гэта на 3 кнігі больш, чым Оля. Колькі кніг прачытала Оля?

Рашэнне.

Таня — 8 кн.
Оля — ?, на 3 кн. менш

8 – 3 = 5 (кн.)




**1** Колькі дзясяткаў і адзінак у кожным з лікаў: 19, 15, 17, 20, 12?

**2** Знайдзі невядомыя складаемыя.

| | | |
|---|---|---|
| 6 = ☐ + 1 | 9 = ☐ + 7 | 7 = ☐ + 2 |
| 6 = 2 + ☐ | 9 = 1 + ☐ | 7 = 4 + ☐ |

**3** Даўжыня бруска 7 см, гэта на 2 см менш за даўжыню рэйкі. Знайдзі даўжыню рэйкі.



**4*** Прозвішчы Дашы і Машы — Скварцова і Вараб'ёва. Вядома, што Даша на 2 гады маладзейшая за Скварцову. Назаві прозвішча і імя кожнай дзяўчынкі?

**5** Назаві няправільныя роўнасці.

5 + 4 = 9 8 – 4 = 3 13 – 3 = 10
10 – 3 = 6 7 + 2 = 9 9 – 4 = 5

**6** Запішы прапушчаныя лікі.

☐ дм = 20 см 19 см = ☐ дм ☐ см
3 дм = ☐ см 1 дм ☐ см = 18 см
☐ дм 7 см = 17 см 15 см = ☐ дм ☐ см

**7** Аксана расфарбавала 12 картак, гэта на 2 больш, чым Каця. Колькі картак расфарбавала Каця?




**8** Якія лікі прапушчаны?

☐ + 4 = 10 10 + ☐ = 12 ☐ + ☐ = 9
10 – ☐ = 6 12 – ☐ = 2 9 – ☐ = ☐
10 – 4 = ☐ 12 – 10 = ☐ 9 – ☐ = ☐



**Задача.** Бацька знайшоў 10 грыбоў, а Саша — 4 грыбы. На колькі грыбоў больш знайшоў бацька, чым Саша?


10


4




Каб даведацца, на колькі адзін лік большы або меншы за другі, трэба ад большага ліку адняць меншы.

**1** На колькі 9 больш за 7; 8 менш за 10; 12 больш за 2; 2 менш за 10; 10 больш за 4; 19 больш за 10; 10 менш за 20?

**2** Хлопчык адрэзаў ад квадрата адзін вугал. Колькі вуглоў мае атрыманая фігура?



**3**

| Лікі | Знайдзі | Лікі | Знайдзі |
|---|---|---|---|
| 10 і 2 | суму | 14 і 4 | рознасць |
| 12 і 2 | рознасць | 6 і 3 | суму |
| 10 і 10 | суму | 10 і 10 | рознасць |

**4** Выкарыстаўшы выраз 10 – 3, склядзі і рашы задачу пра маркі.



**5** Запішы з дапамогай лікавага праменя лікі, большыя за 10 і меншыя за 16. Кожны з лікаў паменшы на 10. Якія лікі атрымаліся?




**6*** Нарысуй два адрэзкі так, каб верхні быў карацейшы за ніжні на 2 см, але даўжэйшы за 1 дм.

**7** У кошыку 8 кг памідораў, гэта на 2 кг менш, чым у вядры. Колькі кілаграмаў памідораў у вядры?




?, на 2 кг больш

**8** Знайдзі невядомыя складаемыя і запішы правільныя роўнасці.

| 15 | |
|---|---|
| 10 + ☐ | 12 + ☐ |
| 11 + ☐ | 13 + ☐ |

| 17 | |
|---|---|
| 10 + ☐ | 12 + ☐ |
| 11 + ☐ | 13 + ☐ |

# Урок 12



**Задача.** Усяго на стале і ў кошыку 13 яблыкаў. На стале 3 яблыкі. Колькі яблыкаў у кошыку?







**1**



| | | | |
|---|---|---|---|
| 8 + 1 | 9 – 4 | 5 + 2 | 7 – 4 |
| 3 + 1 | 4 + 2 | 6 + 4 | 10 – 2 |

**2** Назаві нумары чатырохвугольнікаў. Якія яшчэ фігуры нарысаваны?






















**3** Вусна. Якая маса кавуна?




**4** Запішы лікі, у якіх: 1 дзяс. 5 адз.; 2 дзяс.; 10 адз.; 5 адз. 1 дзяс.; 3 адз. 1 дзяс.; 6 адз. 1 дзяс.; 1 дзяс.

**5*** Вусна. Вадзіцель таксі па дарозе ў горад сустрэў 5 грузавых машын і 3 легкавыя. Колькі ўсяго машын ехала ў горад?



**6** 

| | |
|---|---|
| 12 * 15 | 1 дм 3 см * 13 см |
| 20 * 10 | 1 дм * 10 см |
| 2 * 7 | 2 дзяс. * 1 дзяс. 5 адз. |

**7** Складзі і рашы прыклады.




**8** Два браты разам прынеслі з крамы 6 кг бульбы. Адзін брат прынёс 4 кг. Колькі кілаграмаў бульбы прынёс другі брат?




**9** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 13 – 2 | 15 + 4 |
| 20 – 4 | 18 + 0 |

# Урок 13

**1** Адзін адрэзак мае даўжыню 13 см, другі — на 2 см карацейшы. Знайдзі даўжыню другога адрэзка. Нарысуй яго.

**2** Складзі па рысунках задачы і рашы іх.







**3** Колькі разоў «машына» выканае дадаванне ліку 2 і які лік выдасць, калі на «ўваходзе» лікі 1, 6, 7?

**4** Устаў лікі, якія адсутнічаюць.

8 кг – 2 кг = ☐ кг      7 л – 1 л = ☐ л

☐ кг – 1 кг = 3 кг      ☐ л – 1 л = 8 л

**5*** У першай скрынцы было 12 шароў. Калі з першай скрынкі пераклалі ў другую 2 шары, то ў абедзвюх скрынках шароў стала пароўну. Колькі шароў было ў другой скрынцы спачатку?



**6** Складзі па рысунку задачу і рашы яе.




**7** (>, <, =)

| | | |
|---|---|---|
| 10 + 3 * 14 | 10 + 2 * 11 | 6 + 3 * 11 |
| 10 + 7 * 16 | 17 – 7 * 8 | 10 – 7 * 9 |
| 18 * 15 – 5 | 10 – 0 * 10 | 4 + 5 * 19 |
| 13 * 10 + 6 | 19 – 9 * 14 | 8 – 8 * 18 |

**8** Складзі па рысунку задачу і рашы яе.




**9** Вылічы зручным спосабам.

8 + 2 + 3 9 + 3 + 1
7 + 4 + 3 4 + 7 + 6
5 + 7 + 5 6 + 6 + 4

# Урок 14

Растлумач па рысунку складанне лікаў 9 і 2.





| 9 + 2 = 11<br>9 + 1 + 1 = 11 | 9 + 1 = 10<br>10 + 1 = 11 |
|---|---|

**1** Вылічы.

9 + 3 = ☐
9 + ☐ + ☐ = ☐

9 + 4 = ☐
9 + ☐ + ☐ = ☐

**2** Агульная маса мяшка мукі і мяшка цукру 20 кг. Мяшок мукі мае масу 10 кг. Якая маса мяшка цукру?




**3** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 7 + 2 + 2 | 16 – 3 – 3 | 12 – 2 – 4 |
| 6 + 3 + 3 | 15 – 5 – 6 | 13 – 3 – 7 |
| 5 + 4 + 6 | 12 – 2 – 7 | 15 – 5 – 3 |

**4** Канец адрэзка супадае з лікам 17 на лінейцы. З якім лікам на лінейцы супадзе пачатак адрэзка, калі яго даўжыня роўна 1 дм?




**5*** Знайдзі заканамернасці і прадоўжы рады.




**6** Якія лікі атрымаюцца на «выхадзе» машыны, калі на «ўваход» паступілі лікі 7, 8, 9, 16?




**7** На паліцы стаяла 10 кніжак з вершамі і 6 з казкамі. На колькі менш стаяла кніжак з казкамі, чым з вершамі?



**8** Аднаві прыклады.

☐ + 2 = 10 ☐ – 7 = 10 20 – ☐ = 10



9 + 5 = □




5 = 1 + 4

9 + 1 = 10

10 + 4 = 14

**1** Вылічы.

9 + 6     9 + 7     9 + 8     9 + 9

**2** Дамой прывезлі 7 кг цыбулі і 4 кг морквы. Колькі ўсяго агародніны прывезлі?

**3** Выпішы пары выразаў з роўнымі значэннямі, напрыклад: 9 + 3 = 15 – 3.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 10 + 3 | 10 + 1 | 2 + 6 | 15 – 3 |
| 9 + 3 | 3 + 10 | 9 + 2 | 3 + 5 |

**4** Вымерай даўжыні старон трохвугольніка і запішы вынікі вымярэнняў па нарастанні.



**5** Міша наклеіў у альбом 7 марак, гэта на 2 маркі менш, чым засталося наклеіць. Колькі марак засталося наклеіць Мішу?



**6*** У дзяцей было 2 кнігі і 2 сшыткі. У Веры і Машы былі неаднолькавыя прадметы, у Сашы і Веры — аднолькавыя. У Каці — сшытак. У каго што было?



Каця Саша Маша Вера



**7** Складзі і рашы прыклады.




**8** У Насці было 9 чырвоных шароў, а зялёных — на 2 шары больш. Колькі зялёных шароў было ў Насці?



9

?, на 2 больш

# Урок 16



$$2 + 9 = 9 + 2 = 11$$

**1** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 + 6 | 3 + 9 | 5 + 9 | 7 + 9 |
| 3 + 7 | 4 + 9 | 6 + 9 | 8 + 9 |

**2** На спаборніцтвах 2 А клас атрымаў 7 прызоў, а 2 Б клас — 3. На колькі менш прызоў атрымаў 2 Б клас?

**3** На возеры плавала 9 качак, а гусей — на 4 больш. Колькі гусей плавала на возеры?



**4** Назаві вядомыя табе геаметрычныя фігуры.



Вымерай даўжыню адрэзка і нарысуй адрэзак, на 2 см даўжэйшы.

**5** Запішы лікі, у якіх: 6 адз. 1 дзяс.; 2 адз. 1 дзяс.; 7 адз.; 2 дзяс.; 0 адз. 1 дзяс. Размясці іх па нарастанні.

**6** (>, <, =)

| | | |
|---|---|---|
| 9 + 2 * 11 | 9 + 1 * 9 + 4 | 18 – 3 * 9 + 6 |
| 3 + 9 * 12 | 10 + 2 * 9 + 3 | 7 + 3 * 9 + 1 |

**7*** На талерцы было 12 мандарынаў. Колькі дзяцей узялі па 2 мандарыны, калі на талерцы засталося 2 мандарыны?




**8** Выканай дзеянні па парадку.

| | | |
|---|---|---|
| 4 + 5 + 4 | 2 + 7 + 5 | 3 + 6 + 5 |
| 6 + 3 + 6 | 3 + 6 + 3 | 8 + 2 + 8 |
| 2 + 7 + 8 | 5 + 5 + 4 | 9 + 1 + 9 |
| 5 + 4 + 3 | 8 + 1 + 9 | 9 + 4 + 7 |

**9** У графіне было 15 шклянак соку. За абедам выпілі 5 шклянак соку. Колькі шклянак соку засталося ў графіне?

**10** Запішы прыклады на складанне з адказам 10.

**1** Складзі па рысунку две задачы на павелічэнне ліку на некалькі адзінак.



**2** Запішы лікі па спаданні:

7 адз.; 1 дзяс. 8 адз.; 2 дзяс.; 4 адз.; 1 дзяс. 5 адз.; 19; 1 дзяс.

**3** Разгледзь схемы. Складзі па іх прыклады і рашы іх.










**4** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 12 + 2 * 18 – 4 | 17 – 1 * 15 |
| 11 * 9 + 3 | 12 * 4 + 9 |
| 16 + 3 * 9 + 9 | 14 – 2 * 7 |

**5** Вымерай даўжыні адрэзкаў. Складзі задачу па схеме.




**6*** У дзвюх аднолькавых каробках па 6 алоўкаў. З першай каробкі пераклалі ў другую 2 алоўкі. На колькі менш алоўкаў стала ў першай каробцы, чым у другой?




**7** Маша запрасіла на дзень нараджэння 3 хлопчыкі і некалькі дзяўчынак. Усяго 9 чалавек. Колькі было дзяўчынак?

**8** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 3 дм + 5 дм | 10 см – 4 см |
| 9 дм + 4 дм | 15 см – 5 см |
| 2 дм + 9 дм | 16 см – 6 см |

# Урок 18



Параўнай рашэнне пары прыкладаў.



| | |
|---|---|
| 9 + 2 = ☐ | 11 – 2 = ☐ |
| 9 + 1 = 10 | 11 – 1 = 10 |
| 10 + 1 = 11 | 10 – 1 = 9 |

**1** Знайдзі рознасць.

12 – 3 (2, 1)    13 – 4 (3, 1)    14 – 5 (4, 1)    15 – 6 (5, 1)

**2** Адзін клас сабраў 19 скрынь яблыкаў, а другі — на 4 скрыні менш. Колькі скрынь яблыкаў сабраў другі клас?

**3*** Знайдзі заканамернасць і назаві лікі, якіх не хапае.

| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | 3 | 3 | | | | | | |

**4** На колькі 9 больш за 2; 7 менш за 10; 13 больш за 10; 12 больш за 3; 17 менш за 20; 20 больш за 10?

**5** Даўжыня аднаго адрэзка 9 см, а другога — 4 см. Нарысуй адрэзак, даўжыня якога роўна суме даўжынь гэтых адрэзкаў.



**6** Складзі прыклады па табліцы і рашы іх.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | | 3 | 8 | 5 | | 9 |
| Складаемае | 4 | | 2 | | 6 | 4 |
| Сума | 15 | 12 | | 14 | 16 | |

**7** Каця вырвала з градкі 4 морквіны, бабуля — 9, а мама — столькі, колькі Каця і бабуля разам. Колькі морквін вырвала мама?




**8** Для кожнага прыкладу на складанне запішы па два прыклады на адніманне.

9 + 1  10 + 9  19 + 1



Патлумач.

11 – 9 = 2
9 2

12 – 9 = 3
9 3

**1** Вылічы.

13 – 9 = ☐
9 ☐

14 – 9 = ☐
☐ ☐

15 – 9 = ☐
☐ ☐

**2** У класе 13 хлопчыкаў. Плаваннем займаюцца 9 з іх. Астатнія займаюцца футболам. Колькі хлопчыкаў займаецца футболам?

**3** Знайдзі прапушчаныя лікі.

1 дм 5 см = ☐ см
17 см = ☐ дм ☐ см
19 см = ☐ дм ☐ см

20 см = ☐ дм
10 см = ☐ дм
19 см = ☐ дм ☐ см

**4** Вусна. Што лягчэйшае: сумка ці гіра масай 2 кг? Якую масу мае пакет з мукой?



**5*** У дзяўчынак было тры лялькі і два мячы. У Тані і Вольгі цацкі неаднолькавыя. У Каці і Тані — аднолькавыя. У Светы і Вольгі цацкі розныя. Што было ў Галі? У каго якія цацкі?




**6** Запішы пяць паслядоўных адназначных лікаў. Кожны з іх павяліч на 10. Якія лікі атрымаліся?

**7** Даўжыня аднаго адрэзка 14 см, другога — 5 см. Нарысуй адрэзак, даўжыня якога роўна рознасці даўжынь гэтых адрэзкаў.

**8** Які з лікаў большы і на колькі: 16 або 9?

**9** Складзі і рашы задачу.

| Было | З’елі | Засталося |
|---|---|---|
| — 14 | 9 груш | ? |

**10** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 + 9 | 8 + 9 | 15 – 9 | 17 – 9 |
| 7 + 9 | 9 + 9 | 16 – 9 | 18 – 9 |






3 = 2 + 1
8 + 2 = 10
10 + 1 = 11

**1** Вылічы.

8 + 4 8 + 5 8 + 6 8 + 7 8 + 8

**2** На дрэве сядзела 7 сарок і 9 вераб'ёў. Паляцелі ўсе сарокі і столькі ж вераб'ёў. Колькі ўсяго птушак паляцела? Колькі вераб'ёў засталося?

**3**

| 🟢 | 🔴 |
|---|---|
| 10 | |
| 11 | |
| 12 | |
| 3 | |
| 9 | |
| 2 | |




**4** 

12 * 3 * 4 = 13 20 * 4 * 2 = 14

4 * 5 * 2 = 7 15 * 2 * 2 = 15

**5*** Размяркуй лікі 2, 3, 4, 5, 6, 7 на дзве групы так, каб сума двух любых лікаў у адной групе не была б роўна ніякаму ліку другой групы.

**6** (>, <, =) 8+4 * 9−3 13−9 * 15−9 8+6 * 11−9

**7** Вымерай даўжыні адрэзкаў. На колькі сантыметраў зялёны адрэзак даўжэйшы за сіні? На колькі сантыметраў чырвоны адрэзак карацейшы за сіні? На колькі сантыметраў чырвоны адрэзак карацейшы за зялёны?



**8** Хлопчык паклаў у каробку 4 алоўкі. Іх стала 13. Колькі алоўкаў было ў каробцы спачатку?




**9** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 + 9 | 9 + 4 | 9 + 8 | 20 − 3 |
| 18 − 9 | 4 + 9 | 8 + 9 | 18 − 4 |

## Урок 21

**1** Узор. $3 + 8 = 8 + 3 = 11$

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3 + 8 | 5 + 8 | 7 + 8 | 8 + 9 |
| 4 + 8 | 6 + 8 | 8 + 8 | 8 + 10 |

**2**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 + 2 | 4 + 6 | 8 + 6 | 9 + 5 |
| 8 + 5 | 5 + 8 | 5 + 9 | 6 + 9 |
| 6 + 4 | 2 + 9 | 9 + 6 | 6 + 8 |

$9 + 2 = 2 + 9 = 11$

Складзі роўнасці паводле ўзору задання 1.

**3*** У Сашы, Машы, Косці, Зоі і Гены 4 яблыкі і 1 груша. Што было ў кожнага з дзяцей, калі ў Машы і Косці была розная садавіна, а ў Гены і Косці — аднолькавая?






**4** Колькі на рысунку адрэзкаў? Знайдзі даўжыню найбольшага з іх.



**5** Складзі задачу і рашы яе.



8



?, на 4 больш

**6**




| | |
|---|---|
| 3 | |
| 5 | |
| 9 | |
| 12 | |
| 13 | |

**7**  8 + 3 * 3 + 8 8 + 4 * 8 + 5 8 – 1 * 8 + 4

2 + 9 * 9 + 2 9 + 7 * 9 + 4 9 – 2 * 9 – 3

**8** Брат знайшоў 10 грыбоў, а сястра — на 3 грыбы менш. Колькі ...?

**9** Знайдзі памылкі. Запішы правільна.

10 – 3 = 6 15 – 5 = 10 9 + 6 = 14

13 – 4 = 8 16 – 6 = 8 9 + 5 = 14

9 + 4 = 13 13 – 9 = 4 10 + 8 = 18

# Урок 22



11 – 3 = ☐




3 = 1 + 2
11 – 1 = 10
10 – 2 = 8

**1** Вылічы.

12 – 4    14 – 6    16 – 8
13 – 5    15 – 7    17 – 9

**2** У каструлю і чайнік налілі 13 шклянак вады. Колькі шклянак вады налілі ў чайнік, калі ў каструлю налілі 5 шклянак?







13

**3** 


12 * 2 * 4 = 6        15 * 5 * 8 = 12
16 * 9 * 1 = 6        17 * 1 * 9 = 9
11 * 1 * 4 = 6        17 * 9 * 3 = 11
16 * 5 * 2 = 13       13 * 3 * 8 = 8
19 * 8 * 2 = 13       12 * 2 * 5 = 15

**4*** Два адрэзкі разам складаюць 1 дм. Якімі могуць быць іх даўжыні?

**5** Запішы лікі 16, 13, 5, 9, 10, 0 па нарастанні. Які лік дапаўняе кожны з гэтых лікаў да 20?

**6** Якую масу мае сабака, калі маса кожнага коціка 2 кг?



**7** Складзі задачу па рысунку.




**8** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 + 8 | 5 + 8 | 15 – 9 | 16 – 6 |
| 9 + 4 | 4 + 9 | 12 – 9 | 18 – 8 |

## Урок 23



11 – 8 = 3
8 3

12 – 8 = 4
8 4

**1** Складзі табліцу аднімання ліку 8.

13 – 8     14 – 8     15 – 8     16 – 8

**2** (>, <, =)

9 + 3 * 14     5 + 5 * 9     11 – 3 * 9
8 + 6 * 7     9 + 6 * 8     9 + 5 * 11

**3** Складзі прыклады па схемах і рашы іх.










**4** Маса гусака — 7 кг, а маса курыцы — 3 кг. На колькі кілаграмаў маса курыцы меншая за масу гусака?



**5** Запішы ўсе адназначныя лікі так, каб кожны наступны лік быў на 3 большы за папярэдні. Павяліч кожны з лікаў на 10. Запішы атрыманыя лікі.

**6*** На якіх вагах памылка?

1. 


2. 


3. 


4. 


**7** Вымерай даўжыню кожнага адрэзка. Нарысуй адрэзак, даўжыня якога роўна суме даўжынь гэтых адрэзкаў.



**8** Пабудавалі 12 паверхаў дома, засталося пабудаваць яшчэ 8 паверхаў. На колькі больш паверхаў пабудавалі, чым засталося пабудаваць?

**9**

| | | |
|---|---|---|
| 11 – 3 + 5 | 15 – 7 + 2 | 14 – 6 + 4 |
| 12 – 9 + 8 | 13 + 1 + 1 | 10 – 2 + 6 |



7 + 4 = □

| |
|---|
| 7 + 3 = 10 |
| 10 + 1 = 11 |




Выкарыстаўшы рысунак, знайдзі сумы.

7 + 5　　7 + 6　　7 + 7　　7 + 8

**1** За тыдзень у школьнай сталовай зрасходавалі 15 кг буракоў, 14 кг морквы і 6 кг цыбулі. На колькі кілаграмаў больш зрасходавалі буракоў, чым цыбулі? На колькі кілаграмаў менш зрасходавалі цыбулі, чым морквы?

**2** Нарысуй адрэзак даўжынёй 10 см. Адзнач на ім пункт так, каб адна частка была на 2 см большая за другую. Ці можна выканаць заданне па-іншаму?

**3*** Іван вышэйшы за Сашу на 5 см, а Саша вышэйшы за Толю на 2 см. На колькі сантыметраў Толя ніжэйшы за Івана?



Іван　Саша　Толя

**4** Замяні фігуры адпаведнымі лікамі і вылічы.







8 + ⬠ – □

⬠ + □ – □

9 + ⬠ + □

○ + ○ + △

**5** Рашы чацвёркі прыкладаў з лікамі 8, 3, 11 і 9, 4, 13. Чаму гэтыя прыклады аб’ядналі ў чацвёркі?

| | | | |
|---|---|---|---|
| 8 + 3 = □ | 11 – 3 = □ | 9 + 4 = □ | 13 – 4 = □ |
| 3 + 8 = □ | 11 – 8 = □ | 4 + 9 = □ | 13 – 9 = □ |

**6** Разам вусень і смоўж прапаўзлі 15 дм. Колькі дэцыметраў прапоўз смоўж, калі вусень прапоўз 7 дм?




**7** На прыбіранне школьнага двара выйшлі 12 хлопчыкаў, гэта на 3 больш, чым дзяўчынак. Колькі дзяўчынак выйшла на прыбіранне школьнага двара?

**8** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 + 2 | 9 + 3 | 9 + 4 | 8 + 3 |
| 11 – 2 | 12 – 3 | 13 – 4 | 11 – 3 |

# Урок 25



Патлумач. $4 + 7 = 7 + 4 = 11$




$7 + 4 = 7 + 3 + 1$
$7 + 3 = \boxed{10}$
$\boxed{10} + 1 = 11$

**1** Вылічы паводле ўзору. $5 + 7$ $6 + 7$

**2** 

| | |
|---|---|
| $5 + 7 * 7 + 5$ | $12 - 3 * 12 - 4$ |
| $7 + 9 * 9 + 7$ | $15 - 7 * 16 - 8$ |
| $5 + 8 * 5 + 7$ | $12 - 8 * 14 - 10$ |

**3** Складзі па рысунку задачы, якія рашаюцца так:

$3 + 10$ $10 - 3$







**4*** У Алеся і Міколы разам 15 персікаў. У Алеся персікаў больш, чым у Міколы. Колькі персікаў можа быць у кожнага з хлопчыкаў?

Алесь 




Мікола

15

**5** У вавёрчыным дупле 12 арэхаў і 4 грыбы. На колькі больш арэхаў, чым грыбоў назапасіла вавёрка?



**6** На колькі 2 менш за 20; 13 больш за 8; 16 больш за 9; 4 менш за 12?

**7** Вымерай адрэзкі. На колькі адзін адрэзак даўжэйшы за другі?



**8** Вызнач, на колькі адрозніваюцца даўжыні: 13 см і 5 см; 6 см і 14 см; 1 дм 8 см і 9 см; 9 см і 1 дм 6 см; 1 дм 4 см і 8 см; 17 см і 1 дм 2 см.

**9** У 2 А класе 18 вучняў. Гэта на 2 менш, чым у 2 Б класе. Колькі вучняў у 2 Б класе?

**10** Складзі прыклады па схемах і рашы іх.









# Урок 26

**1** Патлумач рашэнне прыкладаў.

| 7 + 4 = 11 | 7 + 5 = 12 | 7 + ☐ = 13 |
|---|---|---|
| 11 – 4 = 7 | 12 – 5 = ☐ | 13 – 6 = ☐ |
| 11 – 7 = 4 | 12 – 7 = ☐ | 13 – ☐ = 6 |

**2** Складзі задачы па рысунках.



10 ?, на 3 менш



12 грыбоў

**3** (>, <, =)

| | | |
|---|---|---|
| 15 * 7 + 7 | 9 + 6 * 14 | 3 + 9 * 2 + 9 |
| 16 * 7 + 8 | 9 + 5 * 13 | 4 + 8 * 8 + 4 |

**4** Даўжыні трох адрэзкаў роўны 9 см, 4 см і 7 см. Знайдзі суму даўжынь самага доўгага і самага кароткага адрэзкаў.

**5** З дапамогай рысункаў назаві лікі, якія большыя за 2, але меншыя за 6; большыя за 9, але меншыя за 15.






**6** Запішы велічыні па спаданні: 2 см; 1 дм; 1 дм 5 см; 20 см; 1 дм 8 см; 1 дм 1 см; 13 см.

**7*** Хто выйграў?

| | | |
|---|---|---|
| 🔴 6 ачкоў | 🟢 5 ачкоў | 🔵 4 ачкі |



Коля



Саша



Яўген

**8** Мама высушыла 15 кг яблыкаў. Пры сушцы іх маса зменшылася на 12 кг. Колькі кілаграмаў яблыкаў атрымалася пасля сушкі?

**9** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 + 8 | 8 + 9 | 18 – 8 | 9 + 9 |
| 7 + 9 | 8 + 5 | 17 – 4 | 8 + 3 |
| 8 + 4 | 7 + 8 | 13 – 2 | 11 – 2 |

# Урок 27



Патлумач складанне $6 + 5 = 11$.



$5 = 4 + 1$

$6 + 4 = \boxed{10}$

$\boxed{10} + 1 = 11$

**1** Вылічы.

$6 + 6$ $\quad$ $6 + 7$

$6 + 8$ $\quad$ $6 + 9$

**2** Знайдзі сумы.




**3** Вымерай адрэзкі. На колькі адзін адрэзак карацейшы за другі?



**4*** Са скрынкі ўзялі 7 кубікаў. Колькі кубікаў трэба пакласці ў скрынку, каб у ёй стала на 5 кубікаў больш, чым было спачатку?



**5** На ўроках працоўнага навучання дзяўчынкі перасадзілі 8 фіялак і 5 кактусаў. Колькі ўсяго пакаёвых раслін перасадзілі дзяўчынкі?



**6** Выканай дзеянні па схемах. Запішы прыклады.










**7** (>, <, =)

1 дзяс. * 10
1 дзяс. 7 адз. * 16
1 дм * 3 см

20 * 1 дзяс. 9 адз.
3 * 2 дзяс.
2 дм * 20 дм

**8** У вазу паставілі 7 нарцысаў, гэта на 5 больш, чым цюльпанаў. Колькі цюльпанаў было ў вазе?

**9** Дапоўні да 20.






## Урок 28

**1** Выкарыстаўшы табліцу, знайдзі рознасці.

13 – 7 = 6

11 – 7

12 – 7

13 – 6

14 – 7

11 – 6

12 – 6

10 – 3

13 – 4

14 – 5

| + | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |

**2** Валя засушыла 8 кляновых лістоў, а дубовых — на 4 больш. Колькі дубовых лістоў засушыла Валя?

**3** Па схемах знайдзі рознасці.




**4** Вусна.



5* Аня, Бора, Вера і Гена разам злавілі 10 рыбак, але кожны злавіў розную колькасць рыбак. Аня злавіла больш за ўсіх, а Вера — менш за ўсіх. Хто злавіў больш рыбак: хлопчыкі ці дзяўчынкі?




6 Вусна. Школьнікі пайшлі ў паход у чацвер, а вярнуліся праз 5 дзён. У які дзень яны вярнуліся?

7 Вымерай даўжыні адрэзкаў. На колькі сантыметраў чырвоны адрэзак карацейшы за сіні?



8 Саша з'еў 5 сліў, яго брат — 7, а тата — 12. Колькі сліў з'елі Саша з братам? На колькі сліў больш з'еў тата, чым Саша?

9 

| | | |
|---|---|---|
| 5 * 4 * 1 = 10 | 4 * 3 * 1 = 8 | 9 * 5 * 4 = 8 |
| 5 * 4 * 1 = 0 | 4 * 3 * 1 = 6 | 9 * 7 * 2 = 0 |

# Урок 29



На рысунку паказаны ломаныя лініі.







Ломаная лінія складаецца
з адрэзкаў (звёнаў).

**1** Знайдзі ломаныя лініі.
















Колькі звёнаў у кожнай з іх?

**2** У адной скрыначцы 6 алоўкаў, гэта на 6 алоўкаў менш, чым у другой. Колькі алоўкаў у другой скрыначцы?






**3** На колькі 12 больш за 9; 15 больш за 7; 5 менш за 13; 10 больш за 0?

**4** На галінцы сядзела 3 сініцы. Прыляцелі 8 верабʼёў. Колькі птушак стала на галінцы?

**5** Складзі і рашы прыклады.










**6** Запішы лікі 12, 15, 18, 16, 9 па спаданні. Якія лікі дапаўняюць гэтыя лікі да 20?

**7*** У прыкладзе не хапае некалькіх лічбаў. Якія гэта лічбы?

2 ☐ – ☐ 0 + 5 = 15      15 – ☐ 3 + ☐ = 9

**8** У вазе ляжала 9 шакаладных цукерак, а карамелек — на 4 больш. Колькі карамелек ляжала ў вазе?




**9** Вылічы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2 + 9 | 4 + 7 | 7 + 8 | 8 + 4 | 5 + 4 |
| 9 + 2 | 7 + 4 | 8 + 7 | 4 + 8 | 4 + 5 |



$5 + 4 + 3 = 12$ (см)




Даўжыня ломанай лініі — гэта сума даўжынь усіх яе звёнаў.

**1** Вымерай даўжыні адрэзкаў, якія ўтвараюць ломаную лінію. Знайдзі яе даўжыню.



**2** Знайдзі невядомыя кампаненты.

| | | |
|---|---|---|
| $\square + 5 = 14$ | $\square - 7 = 7$ | $\square + 8 = 11$ |
| $4 + \square = 11$ | $\square - 5 = 8$ | $12 - \square = 4$ |
| $\square + 9 = 13$ | $14 - \square = 6$ | $20 - \square = 13$ |
| $8 + \square = 12$ | $15 + \square = 18$ | $\square + 14 = 20$ |

**3** Даўжыня аднаго звяна ломанай 6 см, гэта на 2 см больш, чым даўжыня другога звяна ломанай. Нарысуй такую ломаную.

**4** Запішы лікі, у якіх: 2 дзяс.; 7 адз.; 1 дзяс. 6 адз.; 1 дзяс. 5 адз.; 1 дзяс. 8 адз.; 15 адз.

**5*** Ад трохвугольніка адрэзалі 2 вуглы. Колькі стала вуглоў?



**6** У адной скрыначцы 4 алоўкі, а ў другой — 7. У кожную скрыначку паклалі па 8 алоўкаў. У якой скрыначцы алоўкаў стала больш і на колькі?




**7** Запішы двухзначныя лікі, меншыя за суму лікаў 8 і 6.

**8** У класе 16 дзяўчынак і 9 хлопчыкаў. На колькі менш у класе хлопчыкаў, чым дзяўчынак?

**9** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $9 + 6 - 5$ | $4 + 4 + 4$ | $8 + 7$ | $16 - 8$ |
| $8 + 6 - 5$ | $13 - 3 - 3$ | $8 + 9$ | $14 - 6$ |

## Урок 31

**1** Назаві вядомыя табе геаметрычныя фігуры. Вымерай даўжыні звёнаў ломанай і знайдзі яе даўжыню.



**2** Нарысуй два адрэзкі. Даўжыня першага адрэзка роўна 1 дм 2 см, а другога — на 2 см меншая. Якая даўжыня другога адрэзка?

**3** (> < =)

| | | |
|---|---|---|
| 6 + 5 * 9 | 7 + 5 * 11 | 13 – 4 * 12 |
| 7 + 7 * 9 | 9 + 9 * 20 | 14 – 7 * 13 |
| 8 + 3 * 17 | 9 + 6 * 12 | 16 – 9 * 15 |

**4*** Васіль даў малодшаму брату палавіну сваіх цукерак і яшчэ 2 цукеркі. Пасля гэтага ў яго нічога не засталося. Колькі цукерак было ў Васіля?

**5**




| | |
|---|---|
| 3 | |
| 4 | |
| 16 | |
| 17 | |

**6** У класе 12 вучняў вучацца на «9» і «10». З іх 5 хлопчыкаў, а астатнія — дзяўчынкі. Колькі дзяўчынак вучыцца на «9» і «10»?

**7** Запішы прапушчаныя лікі.

1 дм □ см = 17 см    1 дзяс. + □ адз. = 10

1 дм 2 см = □ см    8 адз. + □ адз. = 16

**8** Гаспадыня купіла 11 кг капусты, а морквы — на 5 кг менш. Колькі кілаграмаў морквы купіла гаспадыня?

**9** Аднаві роўнасці.

11 – 3 = □    20 – 7 = □    □ + 8 = 19

11 + 5 = □    18 – 6 = □    □ + 9 = 16

# Лікі ад 21 да 100




20 — два дзясяткі

20 + 1 = 21 — дваццаць адзін






99 + 1 = 100



**1**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 20 + 1 | 29 – 1 | 21 + 1 | 28 + 1 | 21 + 2 |
| 20 – 1 | 24 – 1 | 23 – 1 | 27 – 1 | 25 + 3 |
| 26 + 1 | 26 – 1 | 25 – 1 | 19 – 1 | 29 + 1 |

**2** Свеце 17 гадоў, а яе брату 9 гадоў. Хто старэйшы? На колькі гадоў?




**3** Даўжыня аднаго адрэзка 1 дм 5 см, а другога — 9 см. Параўнай адрэзкі і іх даўжыні.

**4*** У аўтобусе было 17 чалавек. На прыпынку зайшлі 3, а выйшлі 4 чалавекі. Як змянілася колькасць пасажыраў у аўтобусе?

**5** Вылічы зручным спосабам.

1 + 6 + 9 = 10 + ☐ = ?　　2 + 3 + 5 + 7 = 10 + ☐ = ?

8 + 7 + 2　　6 + 5 + 5 + 4

6 + 3 + 4　　1 + 8 + 7 + 2

**6** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рады лікаў.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | 12 | 15 | | | | | | | |
| | | | | 14 | 12 | 10 | | | | | |

**7** (>, <, =)

12 < ☐　　8 * 18　　15 * 1

17 * 17　　16 > ☐　　☐ > 16

13 > ☐　　20 * 20　　20 * 10

**8** Вара выразала 8 сняжынак, Марына — 7, а Насця столькі, колькі Вара і Марына разам. Колькі сняжынак выразала Насця?

**9** Вылічы.

9 + 4　　12 – 7　　12 + 8　　3 + 8　　16 – 9

8 + 7　　14 – 5　　20 – 7　　22 – 1　　23 + 1

# Урок 33





1 дзясятак
Дзесяць
**10**



2 дзясяткі
Дваццаць
**20**

...



10 дзясяткаў
Сто
**100**

10 дзясяткаў — сто — 100

10 + 20 = 1 дзяс. + 2 дзяс. = 3 дзяс. = 30

30 – 10 = 3 дзяс. – 1 дзяс. = 2 дзяс. = 20

**1** Запішы лікі, у якіх: 3 дзяс.; 4 дзяс.; 5 дзяс.; 6 дзяс.; 7 дзяс.; 8 дзяс.; 9 дзяс.; 10 дзяс.

**2** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 50 + 20 | 80 – 60 | 80 – 20 |
| 10 + 30 | 70 – 50 | 20 + 40 |
| 40 – 20 | 90 – 40 | 30 + 30 |

**3** На двух падносах было 30 піражных. На першым падносе было 20 піражных. Колькі піражных было на другім падносе?




**4** Прадоўжы рад лікаў.

100, 90, 80, 70, ☐, ☐, ☐, ☐, ☐, ☐.

**5** Вусна. З лікаў 0, 1, 9, 15, 27, 99, 100 выберы двухзначныя лікі. Назаві іх па спаданні і па нарастанні. Ці з'яўляецца лік 100 двухзначным лікам? Чаму?

**6**










**7** Нарысуй два адрэзкі: адзін даўжынёй 11 см, а другі — на 4 см карацейшы.

**8*** Вучань купіў 15 сшыткаў: у адну лінейку, у дзве лінейкі і ў клетку. Сшыткаў у клетку было на 10 больш, чым сшыткаў у адну лінейку. Колькі магло быць сшыткаў кожнага віду?

**9** У матэматычным гуртку займаецца 13 хлопчыкаў. Гэта на 4 больш, чым дзяўчынак. Колькі дзяўчынак займаецца ў матэматычным гуртку?

**10** Аднімай да нуля.

| | | |
|---|---|---|
| 9 – 3 – 3 – 3 = 0 | 16 – 4 – | 15 – 5 – |
| 12 – 6 – | 16 – 8 – | 14 – 2 – |
| 12 – 3 – | 16 – 2 – | 10 – 2 – |

# Урок 34



**Задача.** Для пасадкі купілі некалькі кустоў малін. Пасадзілі 6 кустоў. Засталося пасадзіць 8 кустоў. Колькі кустоў малін купілі?

| Было | Пасадзілі | Засталося |
|---|---|---|
| ? | 6 | 8 |

**1** Вызнач прапушчаныя лічбы.

1 дм 3 см = □ см
2 дм = □ см
1 дм 7 см = □ см
1 дм 5 см = □ см

19 см = □ дм □ см
11 см = □ дм □ см
20 см = □ дм
12 см = □ дм □ см

**2*** Прадоўжы рад лікаў.

2, 1, 7, 3, 12, 5, □, □, □, □, □.

**3** 

5 * 4 * 9 = 0
10 * 2 * 8 = 0

20 * 5 * 5 = 10
18 * 8 * 8 = 2

**4** Які час пакажа гадзіннік праз 2 г; праз 3 г?






**5** Для дзіцячага сада купілі 14 машынак і 5 мячоў. Колькі ўсяго цацак купілі?
Складзі яшчэ дзве задачы па схемах.






**6** З кошыка ўзялі 10 агуркоў. Пасля гэтага ў ім засталося 3 агуркі. Колькі агуркоў было ў кошыку першапачаткова?




**7** Знайдзі памылкі і рашы правільна.

| | | |
|---|---|---|
| $7 - 3 = 5$ | $10 - 2 = 8$ | $10 - 10 = 20$ |
| $20 - 3 = 17$ | $4 + 5 = 8$ | $11 - 1 = 11$ |
| $15 + 5 = 10$ | $20 - 2 = 18$ | $19 - 3 = 15$ |

# Урок 35



**Задача.** Купілі 2 дзясяткі яец. Пасля таго як некалькі штук узялі для выпечкі, засталося 15 яец. Колькі яец узялі?

| Было | Узялі | Засталося |
| --- | --- | --- |
| | ? | |




**1** Колькі ўсяго пунктаў? Колькі пунктаў унутры вялікага круга? Унутры маленькага круга? Унутры абодвух кругоў? Па-за кругамі?



**2** Знайдзі прапушчаныя лікі.

| | | |
| --- | --- | --- |
| 11 + □ = 17 | □ – 2 = 12 | 17 – □ = 10 |
| 14 + □ = 16 | □ – 6 = 10 | 12 – □ = 2 |
| 13 + □ = 19 | □ – 10 = 10 | 18 – □ = 8 |
| 7 + □ = 17 | □ – 12 = 1 | 20 – □ = 10 |

**3*** Ці можна падзяліць тры цукеркі паміж трыма дзецьмі так, каб кожнае дзіця атрымала па цукерцы і адна засталася ў скрыначцы?

**4** Запішы лікі, у якіх: 2 дзяс.; 1 дзяс. 2 адз.; 5 адз. 1 дзяс.; 5 адз.
Рамясці іх па спаданні.

**5** Якіх лікаў і знакаў дзеянняў не хапае?

а)




б)




в)




г)




**6** Вымерай адрэзак. Нарысуй адрэзак на 3 см карацейшы за дадзены.



**7** У вазе было 11 цукерак. За чаем з'елі некалькі цукерак, пасля чаго ў вазе засталося 3 цукеркі. Колькі цукерак з'елі?

**8** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $3 + 6 + 2$ | $10 - 1 + 5$ | $15 - 5 - 3$ |
| $1 + 8 + 3$ | $7 + 4 + 6$ | $10 + 6 - 7$ |
| $0 + 9 + 4$ | $3 + 7 + 5$ | $20 - 10 - 3$ |

# Урок 36



Складзі задачу і рашы яе.

Было — (лісцікі) 11

Адарвалася — (лісцікі) 3

Засталося — ?

---

Адваротныя задачы.

Было — ?
Адарвалася — 3 л.
Засталося — 8 л.

Было — 11 л.
Адарвалася — ?
Засталося — 8 л.

**1** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 – 7 | 14 – 6 | 3 + 8 | 7 + 4 |
| 15 – 8 | 20 – 7 | 5 + 9 | 6 + 5 |

**2** Якая фігура лішкавая? Чаму?












**3*** У бабулі было 12 яблыкаў. Кожнаму з трох унукаў яна дала па 4 яблыкі. Колькі яблыкаў засталося ў бабулі?



**4** 5 дм = ☐ см

1 дм 2 см = ☐ см

☐ дм ☐ см = 18 см

16 см = ☐ дм ☐ см

17 см = ☐ дм ☐ см

☐ дм ☐ см = 11 см

**5** У поездзе было 7 вагонаў. Калі некалькі вагонаў адчапілі, то засталося 5 вагонаў. Колькі вагонаў адчапілі ад поезда?



**6** Якіх лікаў не хапае?

9 + 4 = 9 + 1 + ☐

8 + 3 = 8 + ☐ + 1

12 – 3 = 12 – ☐ – 1

7 + 4 = 7 + ☐ + 1

18 – 9 = 18 – 8 – ☐

11 – 4 = 11 – ☐ – ☐

**7** Складзі задачу і рашы яе.

| Было | З'елі | Засталося |
|---|---|---|
| ? | 8 груш | 3 грушы |

**8** Знайдзі памылкі. Запішы правільна.

9 + 6 = 14

16 – 4 = 12

8 + 5 = 13

12 – 2 = 10

15 – 15 = 0

20 – 7 = 12

16 – 16 = 1

19 + 1 = 20

20 – 4 = 17

# Урок 37



На якім месцы ў запісе ліку 21 стаіць лічба 1; лічба 2? Што абазначае лічба 1; лічба 2?

| Дзясяткі<br>II разрад | Адзінкі<br>I разрад |
|---|---|
| ● ● | ● |
| 2 | 1 |

**21** — 2 дзясяткі 1 адзінка

разрадны склад ліку

**1** Вусна. Назаві разрадны склад ліку: 12, 20, 54, 75, 94, 97.

**2** Запішы лікі, у якіх: 5 дзяс. 5 адз.; 3 дзяс.; 6 дзяс. 2 адз.; 4 адз. 7 дзяс.

**3** У першай скрыні 30 кг буракоў, а ў другой — 50 кг. На колькі кілаграмаў буракоў менш у першай скрыні, чым у другой? Колькі кілаграмаў буракоў у дзвюх скрынях?



**4** Знайдзі патрэбныя лікі.

| | | |
|---|---|---|
| 30 + ☐ = 50 | 60 – ☐ = 50 | 30 + ☐ = 80 |
| 40 + ☐ = 50 | 90 – ☐ = 50 | 100 – ☐ = 80 |
| 10 + ☐ = 50 | 100 – ☐ = 50 | 70 + ☐ = 80 |

**5*** Нязнайка нарысаваў тры прамыя лініі. На кожнай з іх адзначыў тры пункты. Усяго ён адзначыў 6 пунктаў. Пакажы ў сшытку, як ён гэта зрабіў.



**6** Складзі прыклады і рашы іх.










**7** Андрэй даў сястры 9 фламастараў, а потым яшчэ 7. У яго не засталося ні аднаго фламастара. Колькі фламастараў было ў Андрэя?

**8** (>, <, =)

4 см * 4 дм

3 дм * 4 дм 4 см

7 дм * 75 см

5 дм * 5 см

# Урок 38



| | Дзяс. | Адз. |
|---|---|---|
| 24 | 2 | 4 |

$24 = \underbrace{20 + 4}$
сума разрадных складаемых

**1** Запішы лікі 27, 95, 43, 34 сумай разрадных складаемых.

**2** Запішы лікі.

30 + 5    10 + 5    70 + 2
80 + 3    90 + 4    60 + 4

**3** Вусна. Маса курыцы — 3 кг, а індыка — на 2 кг большая. Якая маса індыка?



**4** Вусна. Маса курыцы — 3 кг, а індыка — 5 кг. Якую масу маюць курыца і індык разам?



**5** Знайдзі згубленыя лікі.

29 + 1 = □    20 + 7 = □    64 = 60 + □
30 – 1 = □    60 + 4 = □    28 = □ + 8
30 + 20 = □    80 + 2 = □    42 = □ + 2

**6** У магазін прывезлі 26 спартыўных веласіпедаў, а дзіцячых — на 6 веласіпедаў менш. Колькі дзіцячых веласіпедаў прывезлі ў магазін?

**7*** Знайдзі заканамернасці і прадоўжы рады.

4 → 8 → 12 → ☐ → ☐

△ → □ → ☐ → ⬡

20 → 17 → 14 → ☐ → ☐ → ☐

**8** Запішы адназначныя лікі; круглыя двухзначныя лікі; лікі, у якіх колькасць дзясяткаў на 2 меншая за колькасць адзінак.
Запішы найбольшы адназначны лік; найменшы двухзначны лік; найбольшы двухзначны лік; найменшы трохзначны лік.

**9** На падносе ляжыць 3 дзясяткі яблыкаў і 2 дзясяткі груш. Колькі дзясяткаў пладоў ляжыць на падносе? На колькі больш яблыкаў, чым груш?



**10** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 + 6 | 11 – 5 | 80 – 20 | 20 + 4 |
| 9 + 5 | 12 – 4 | 100 – 70 | 40 + 4 |
| 8 + 4 | 18 – 9 | 30 + 40 | 70 + 2 |

# Урок 39



5 дзяс. > 4 дзяс.

52 > 47

4 дзяс. = 4 дзяс.
3 адз. < 6 адз.

43 < 46

5 дзяс. = 5 дзяс.
7 адз. = 7 адз.

57 = 57

**1** 

| | | |
|---|---|---|
| 47 * 42 | 40 * 30 | 51 * 64 |
| 10 * 40 | 29 * 25 | 12 * 11 |

**2** У садзе 18 дрэў. Яблынь — 5. Астатнія — вішні. Колькі ў садзе вішань?




**3** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 + 3 | 60 + 30 | 60 – 20 | 70 – ☐ = 50 |
| 4 + 1 | 40 + 10 | 70 – 40 | 80 – ☐ = 50 |
| 5 + 2 | 50 + 20 | 30 – 10 | 90 – ☐ = 50 |

**4** Нарысуй адрэзак, роўны даўжыні шляху мурашкі.






**5** На сталe ляжыць 10 агуркоў, 7 памідораў і 6 цыбулін. На колькі больш ляжыць агуркоў, чым цыбулін? На колькі менш ляжыць цыбулін, чым памідораў?



**6*** Устаў прапушчаныя лікі.







**7** Пасля таго як Саша рашыў 9 прыкладаў, яму засталося рашыць яшчэ 3 прыклады. Колькі ўсяго прыкладаў трэба было рашыць Сашу?




**8** $\gtrless=$

$30 + 10 * 30 + 30$ $\quad$ $70 - 20 * 70 - 30$

$80 + 10 * 10 + 80$ $\quad$ $60 + 10 * 60 - 10$

## Урок 40

**1** Колькі існуе двухзначных круглых лікаў?
Колькі двухзначных лікаў заканчваецца адзінкай? Двойкай?
На колькі лік 31 большы за лік 21?
Колькі існуе двухзначных лікаў, у запісе якіх першая лічба на 3 меншая за другую? На 2 большая за другую?

**2** Знайдзі адсутныя лікі.

$20 + 2 = \square$ $\square = 3 + 60$

$60 + 4 = \square$ $\square = 4 + 60$

**3** У бабулі было 12 маткоў пражы. Калі яна звязала сукенку, у яе засталося 4 маткі. Колькі маткоў пражы пайшло на сукенку?

| Было | Зрасходавала | Засталося |
|---|---|---|
| 12 | ? | 4 |

**4** Знайдзі памылкі ў табліцах.

| ? < 30 | ? = 30 | ? > 30 |
|---|---|---|
| 0 | 15 | 29 |
| 15 | 60 | 36 |
| 30 | 30 | 70 |
| 28 | 35 | 41 |

| ? < 15 | ? = 15 | ? > 15 |
|---|---|---|
| 10 + 2 | 4 + 11 | 20 – 2 |
| 16 + 2 | 15 + 1 | 20 – 5 |
| 16 – 2 | 15 + 0 | 10 + 9 |
| 15 – 0 | 15 – 1 | 10 + 7 |

**5** Для выпякання пірагоў мама купіла 5 дзясяткаў яец. У сумку яна паклала 2 дзясяткі. Колькі яшчэ яец трэба пакласці ў сумку?




**6** Які лік трэба дадаць да 5, каб атрымалася рознасць лікаў 16 і 1?

5 + ☐ = 16 – 1

**7** Вызнач, на колькі першы лік большы або меншы за другі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15 і 9 | 30 і 50 | 40 і 70 | 20 і 60 |
| 14 і 19 | 20 і 7 | 100 і 90 | 60 і 80 |

**8*** У Васі некалькі арэхаў, а ў Віці — на 2 больш. Усяго арэхаў — 6. Колькі арэхаў у кожнага хлопчыка?

**9** За адну гадзіну рабочы робіць 17 дэталяў, а вучань — 7 дэталяў. На колькі больш дэталяў за гадзіну робіць рабочы, чым вучань?

**10** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 17 – 8 | 80 + 3 | 40 + 20 – 30 |
| 14 + 6 | 70 + 4 | 70 + 20 – 50 |
| 11 – 7 | 60 + 5 | 60 + 10 – 20 |

## Урок 41

**1** Вусна.

1) На адну паліцу Маша паставіла 9 кніжак, а на другую — на 3 кніжкі менш. Колькі кніжак дзяўчынка паставіла на другую паліцу?

2) На адну паліцу Маша паставіла 9 кніжак, а на другую — 6 кніжак. Колькі ўсяго кніжак дзяўчынка паставіла на дзве паліцы?



**Задача.** На адну паліцу Маша паставіла 9 кніжак, а на другую — на 3 кніжкі менш. Колькі ўсяго кніжак дзяўчынка паставіла на дзве паліцы?

9






1) $9 - 3 = 6$ (кн.)

2) $9 + 6 = 15$ (кн.)

?, на 3 менш





**2*** У адным акварыуме 8 рыбак, а ў другім — на 4 рыбкі больш. Колькі рыбак у двух акварыумах?







**3*** Якой даўжыні кожны адрэзак, калі два адрэзкі маюць аднолькавую даўжыню, а трэці — на палавіну карацейшы за першы?




**4** Колькі двухзначных лікаў, большых за 42 і меншых за 49? Запішы іх.

**5** Вымерай звёны ломанай і знайдзі яе даўжыню.



**6** Выпішы ўсе прыклады на адніманне з адказам 7.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 + 2 | 10 – 3 | 7 + 9 | 17 – 10 |
| 9 – 2 | 18 – 10 | 8 + 9 | 7 – 0 |




**1** Ад дома да сажалкі можна прайсці напрамую або па сцежцы. Які шлях карацейшы? Які даўжэйшы? На колькі метраў?




**2** Выразі ў сантыметрах.

3 дм 8 см = ☐ см 8 дм 8 см = ☐ см

9 дм 2 см = ☐ см 10 дм = ☐ см

**3*** На колькі метраў павінна падрасці дрэва, каб быць вышэйшым за дом на 5 м?



**4** У кнізе і сшытку Алесь налічыў 60 старонак, а Каця ў такіх жа кнізе і двух сшытках налічыла 80 старонак. Колькі старонак у кнізе і колькі ў сшытку?



**5** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 40 $\xrightarrow{+6}$ ☐ | 50 $\xrightarrow{+3}$ ☐ | 80 $\xrightarrow{+4}$ ☐ |
| 40 $\xrightarrow{+4}$ ☐ | 50 $\xrightarrow{+7}$ ☐ | 80 $\xrightarrow{+9}$ ☐ |
| 63 $\xrightarrow{-3}$ ☐ | 52 $\xrightarrow{-2}$ ☐ | 94 $\xrightarrow{-4}$ ☐ |
| 76 $\xrightarrow{-6}$ ☐ | 25 $\xrightarrow{-5}$ ☐ | 38 $\xrightarrow{-8}$ ☐ |

**6** Лыжнік ад’ехаў ад хвоі на 40 м, а затым развярнуўся і праехаў у процілеглым напрамку 100 м. На якой адлегласці ад хвоі ён знаходзіцца?




**7** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 20 + 7 | 60 + 3 | 70 + 3 |
| 30 + 4 | 10 + 7 | 50 + 4 |
| 50 + 7 | 80 + 4 | 10 + 8 |

# Урок 43

**1** Даўжыня рэйкі 3 м. Вучань адпіліў 1 м рэйкі. Колькі метраў рэйкі засталося?
Складзі і рашы адваротныя задачы.



**2** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 20 м + 30 м | 40 м + 5 м | 17 дм + 2 дм |
| 90 м – 70 м | 14 м + 4 м | 60 см – 20 см |
| 70 м – 20 м | 17 м + 3 м | 10 дм – 10 см |

**3** Вымерай даўжыні старон трохвугольнікаў і запішы іх па нарастанні для кожнага трохвугольніка.





**4** 6 дзяс. * 5 дзяс. 7 адз.
3 дзяс. 7 адз. * 8 дзяс.
2 дм 4 см * 3 дм 7 см
6 дм 1 см * 2 дм 7 см
1 м * 6 дм

**5*** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы запіс.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | В | 5 | ? |
| А | 3 | Д | ? |

**6** Хто з дзяцей будзе далей ад дома, калі Янка пройдзе 10 м, а Маша — 18 м?




**7** Падбяры лікі.

28 = 20 + ☐ + ☐ 40 + ☐ + ☐ = 49

37 = 30 + 6 + ☐ ☐ + 60 + 3 = 63

50 + ☐ + ☐ = 58 70 + ☐ + ☐ = 79

**8** Маса скрыні — 2 кг, а маса ягад у ёй — на 15 кг большая. Знайдзі масу скрыні з ягадамі.




**9** >
<
=

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 * 9 | 6 * 7 | 3 * 1 | 0 * 1 |
| 70 * 90 | 60 * 70 | 30 * 10 | 10 * 20 |
| 74 * 91 | 68 * 72 | 53 * 51 | 90 * 91 |

# Урок 44

**1**




Даўжыня першага адрэзка 13 см, другі — на 2 см карацейшы за першы, а трэці — на 4 см карацейшы за другі. Знайдзі даўжыню трэцяга адрэзка. Нарысуй яго.




**2** Знайдзі невядомыя складаемыя.

| | | |
|---|---|---|
| 40 + ☐ = 45 | 70 + ☐ = 78 | 80 + ☐ = 84 |
| 80 + ☐ = 83 | 50 + ☐ = 52 | 60 + ☐ = 66 |
| 30 + ☐ = 37 | 90 + ☐ = 97 | 20 + ☐ = 29 |
| 50 + ☐ = 55 | 70 + ☐ = 73 | 40 + ☐ = 49 |

**3** Складзі задачу па табліцы і рашы яе.

| Было | Прадалі | Засталося |
|---|---|---|
| 60 | ? | 40 |

**4** ±

| | | |
|---|---|---|
| 60 * 20 = 80 | 100 * 50 = 50 | 20 * 1 = 21 |
| 70 * 10 = 60 | 20 * 30 = 50 | 30 * 1 = 29 |
| 60 * 40 = 100 | 30 * 10 = 40 | 80 * 80 = 0 |

**5** Бабуля звязала 12 рукавічак. З іх 4 рукавіцы — для дарослых, а астатнія рукавічкі — для ўнукаў. Колькі рукавічак для ўнукаў звязала бабуля?

**6** Складзі і рашы прыклады паводле ўзору.

Узор. $13 + 3 + 2$ $\quad$ $15 - 2 - 1$

$13 + 5 = 18$ $\quad$ $15 - 3 = 12$







**7*** Устаў прапушчаныя лічбы.

9☐ < ☐1 $\qquad$ 1☐ < ☐8

**8** Складзі задачу і рашы яе.

Было 20 рыбак.



**9**

| +8 | |
|---|---|
| 8 | |
| 7 | |
| 5 | |
| 9 | |

| –7 | |
|---|---|
| 14 | |
| 16 | |
| 12 | |
| 11 | |

| –6 | |
|---|---|
| 13 | |
| 15 | |
| 11 | |
| 14 | |

| –9 | |
|---|---|
| 17 | |
| 16 | |
| 12 | |
| 18 | |

Урок 45

# Пазатаблічнае складанне і адніманне лікаў у межах 100






11, 9 – 3, 10 + 3, 13 + 2 + 2, 17 – 3 — **лікавыя выразы**.

11, 6, 13, 17, 14 — **значэнні лікавых выразаў**.

9 – 3 = 6 — **рознасць лікаў** 9 і 3 роўна 6.

10 + 3 = 13 — **сума лікаў** 10 і 3 роўна 13.

**1** Прачытай выразы і знайдзі іх значэнні.

12 + 6    14 + 4    7 + 2 + 1    16 – 6

**2** Мама спякла 15 піражкоў з капустай. За абедам дзеці з'елі 5 піражкоў. Што азначае выраз 15 – 5?

**3** У адной скрыні было 20 кг бананаў, а ў другой — на 10 кг менш. Колькі кілаграмаў бананаў было ў дзвюх скрынях?

**4** (> < =)

25 * 52    1 дзяс. 1 адз. * 21

47 * 37    48 * 4 дзяс. 2 адз.

37 * 73    4 дм 2 см * 43 см

**5*** Чырвоная стужка даўжэйшая за сінюю на 7 см. Жоўтая стужка карацейшая за чырвоную на 3 см. Параўнай даўжыні сіняй і жоўтай стужак.

**6** Складзі прыклады па схемах.

3 $\xrightarrow{+2}$ [5] $\xrightarrow{+4}$ [ ]          7 $\xrightarrow{-3}$ [ ] $\xrightarrow{-1}$ [ ]

12 $\xrightarrow{?}$ [15] $\xrightarrow{?}$ 19          19 $\xrightarrow{?}$ [14] $\xrightarrow{?}$ [13]

11 $\xrightarrow{?}$ [17] $\xrightarrow{?}$ 20          15 $\xrightarrow{?}$ [10] $\xrightarrow{?}$ [2]

**7** У скрыначцы ляжала 20 незавостраных алоўкаў. 10 алоўкаў Стась завастрыў. Колькі алоўкаў засталося завастрыць?

| Было | Завастрыў | Засталося |
|---|---|---|
| 20 | 10 | ? |

**8** Знайдзі невядомае складаемае; памяншаемае.

[ ] + 8 = 18          [ ] + 9 = 14          [ ] – 8 = 7

[ ] – 12 = 4          [ ] + 7 = 16          [ ] + 9 = 9

# Урок 46





$6 + 3 + 4 = \square$

Можна вылічыць так.

Спосаб 1. $(6 + 3) + 4 = 13$

Спосаб 2. $6 + (3 + 4) = 6 + 7 = 13$

Спосаб 3. $(6 + 4) + 3 = 13$

**1** Вылічы найбольш зручным спосабам.

Узор.

$3 + 10 + 4 = 10 + (4 + 3) = 10 + 7 = 17$

| | | |
|---|---|---|
| $10 + 7 + 2$ | $3 + 4 + 7$ | $4 + 8 + 6$ |
| $10 + 4 + 2$ | $2 + 5 + 8$ | $5 + 9 + 5$ |

**2** Для ўрокаў працоўнага навучання купілі 8 лістоў белай паперы, а каляровай — на 4 лісты больш. Колькі ўсяго лістоў паперы купілі? Патлумач рашэнне задачы па схеме.



**3*** Каля дома растуць розныя дрэвы: 3 бярозы і столькі ж рабін. Клёнаў менш, чым рабін, але больш, чым елак. Колькі ўсяго дрэў расце каля дома?

**4** Вымерай і запішы даўжыні адрэзкаў.



**5** Дзяўчынка гасцявала ў бабулі 2 тыдні і 3 дні. Колькі ўсяго дзён гасцявала дзяўчынка?

**6** На паліцы стаяла 30 дыскаў з песнямі, а з казкамі — на 10 менш. Колькі дыскаў з песнямі і казкамі стаяла на паліцы?




**7** Параўнай, не вылічваючы.

78 – 1 * 78
100 – 20 * 100
70 – 1 * 60 – 1

60 – 1 * 60
69 + 1 * 69 + 2
70 – 1 * 70 + 1

## Урок 47



**Задача.** Спачатку да кармушкі прыляцелі 6 сініц. Потым яшчэ 7 сініц і 4 вераб'і. Колькі ўсяго птушак прыляцела да кармушкі? Растлумач тры спосабы рашэння задачы.

Спосаб 1. $6 + (7 + 4) = 17$ (п.)

Спосаб 2. $(6 + 7) + 4 = 17$ (п.)

Спосаб 3. $(6 + 4) + 7 = 17$ (п.)




**1** Вылічы зручным спосабам.

$9 + 5 + 1$ $\quad$ $6 + 7 + 4$ $\quad$ $18 - 9 - 8$

$7 + 2 + 3$ $\quad$ $2 + 3 + 8$ $\quad$ $13 - 4 - 3$

**2** Два веласіпедысты выехалі адначасова насустрач адзін аднаму. Першы ехаў да сустрэчы 1 г. Колькі часу ехаў да сустрэчы другі веласіпедыст?





**3** (±) 30 * 0 = 30 $\quad$ 40 * 40 = 0

40 * 20 = 20 $\quad$ 100 * 70 = 30

60 * 60 = 0 $\quad$ 60 * 20 = 80

**4** Які лік трэба дадаць да ліку 7, каб атрымаць столькі ж, колькі атрымліваецца пры складанні лікаў 8 і 5?

$$7 + \square = 8 + 5$$

**5*** Колькі трохвугольнікаў знаходзіцца толькі ў чырвоным крузе? У чырвоным і сінім кругах? Толькі ў сінім крузе? У чырвоным або сінім кругах?



**6** Вымерай чырвоны адрэзак. Вылічы даўжыню сіняга адрэзка.




Складзі адваротныя задачы.

**7** У Данілы 4 жалуды, у Насці столькі ж і яшчэ 2. Колькі жалудоў у Насці? У каго больш жалудоў? На колькі? Колькі жалудоў у Данілы і Насці разам?

**8** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14 – 8 | 17 – 9 | 20 – 3 | 8 + 5 |
| 60 + 6 | 90 – 10 | 30 + 9 | 15 + 5 |









Спачатку выконваецца дзеянне ў дужках.

**1** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 15 – (2 + 1) | 17 – (3 + 4) | 16 – (3 + 2) |
| (15 – 2) + 1 | (17 – 3) + 4 | (16 – 3) + 2 |

**2** У аўтобусе было 9 пасажыраў. Падчас руху па маршруце ўвайшлі 3 жанчыны і 5 мужчын. Колькі пасажыраў стала ў аўтобусе? Рашы задачу трыма спосабамі.

**3** Вылічы зручным спосабам.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3 + 5 + 7 | 4 + 5 + 6 | 3 + 7 + 6 | 9 + 6 + 1 |
| 2 + 6 + 8 | 1 + 7 + 9 | 8 + 9 + 2 | 1 + 9 + 2 |
| 1 + 3 + 9 | 2 + 4 + 8 | 6 + 3 + 4 | 5 + 3 + 5 |

**4** Аднаві роўнасці.

| | | |
|---|---|---|
| 90 + 9 = ☐ | 70 + ☐ = 77 | 8 + 7 = ☐ |
| 30 + 7 = ☐ | 40 + ☐ = 44 | ☐ + 8 = 15 |
| 60 + 4 = ☐ | 80 + ☐ = 88 | ☐ + 5 = 14 |
| 40 + 3 = ☐ | 20 + ☐ = 25 | 14 – ☐ = 9 |

**5** Нарысуй паводле ўзору ў сшытку фігуру, якой не хапае на рысунку.




**6** Даўжыня кроку мамы 60 см. Крок Дзімы на 20 см карацейшы. Крок бацькі на 40 см даўжэйшы за крок Дзімы. Якая даўжыня кроку бацькі?

**7** На возеры лавілі рыбу 14 рыбакоў. Спачатку дамой пайшлі 5 рыбакоў, а потым яшчэ 2. Колькі рыбакоў засталося на возеры?

**8** Складзі прыклады.



## Урок 49



**Задача.** У гаражы стаяла 7 грузавых і 5 легкавых машын. Паставілі яшчэ 4 грузавыя машыны. Колькі машын стала ў гаражы? Патлумач рашэнне задачы па схемах.







**1** Якіх лікаў не хапае? Дапішы іх.

| | | |
|---|---|---|
| 9 + □ = 12 | 3 + □ = 12 | 2 + □ = 12 |
| □ – 4 = 12 | 5 + □ = 12 | □ + 4 = 12 |
| 6 + □ = 12 | 15 – □ = 12 | |

**2*** Перакладзі дзве палачкі так, каб атрымалася тры квадраты.



**3** Складзі і рашы прыклады.



**4** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні.

Ад ліку 20 адняць суму лікаў 8 і 4;
да ліку 7 дадаць рознасць лікаў 9 і 6;
ад сумы лікаў 20 і 30 адняць лік 10.

**5** На экскурсію па горадзе ў адным аўтобусе ехала 30 дзяцей, а ў другім — на 10 дзяцей больш. Колькі ўсяго дзяцей ехала ў двух аўтобусах?




**6** Падстаў у акенцы такія лікі, каб запісы сталі правільнымі.

$3 + \square < 7$ $\quad$ $9 + \square < 11$ $\quad$ $15 + \square < 17$

$18 + \square < 19$ $\quad$ $10 + \square < 14$ $\quad$ $19 > \square$

**7** Глебу 3 гады таму было 6 гадоў. Колькі гадоў Глебу цяпер?




**8** Вылічы.

$15 - 5 - 2$ $\quad$ $12 - 2 - 4$

$12 + 8 - 4$ $\quad$ $7 + 13 - 3$

$14 + 6 - 2$ $\quad$ $2 + 4 + 8$

# Урок 50

**1** Калі ў слоік паклалі 7 памідораў, то іх там стала 15. Колькі памідораў было ў слоіку спачатку?



**Задача.** На афарбоўку сцен пайшло 10 кг фарбы, на афарбоўку дзвярэй — 2 кг. Колькі кілаграмаў фарбы пайшло на афарбоўку падлогі, калі ўсяго на рамонт выкарыстана 19 кг фарбы?

Спосаб 1







19 – (10 + 2) = 7

Спосаб 2




(19 – 10) – 2 = 7

Спосаб 3




(19 – 2) – 10 = 7

**2** Вылічы зручным спосабам.

| | | |
|---|---|---|
| 13 – 6 – 3 | 20 – 4 – 10 | 18 – 8 – 2 |
| 12 – 5 – 2 | 15 – 9 – 5 | 11 – 9 – 1 |

**3** Якія лікі або лічбы можна падставіць у акенцы, каб запісы сталі правільнымі?

| | | |
|---|---|---|
| $17 - 7 < 17 - \square$ | $\square 6 > 57$ | $3\square < 34$ |
| $20 + \square > 20 + 7$ | $\square\ \square > \square$ | $\square 7 < 20$ |
| $\square - 19 > 23 + 19$ | $\square\ \square < 13$ | $4\square > 42$ |

**4** Вымерай звёны ломанай і знайдзі яе даўжыню.



**5** Міша купіў 20 марак. На адной старонцы альбома ён размясціў 4 маркі, а на другой — 3 маркі. Колькі марак засталося размясціць у альбом?

| Было | Размясціў | Засталося |
|---|---|---|
| 20 | | ? |

**6** Вылічы зручным спосабам.

| | | |
|---|---|---|
| $6 + 7 + 3$ | $5 + 7 + 5$ | $8 + 2 + 3$ |
| $4 + 3 + 6$ | $9 + 2 + 1$ | $7 + 5 + 3$ |
| $9 + 9 + 1$ | $7 + 4 + 3$ | $7 + 2 + 3$ |

# Урок 51



**Задача.** У кошыку было 5 морквін і 4 бурака. Віця аддаў трусам 6 карняплодаў. Колькі карняплодаў засталося ў кошыку?



Было — 5 і 4

Аддаў — 6

Засталося — ?




**1** Складзі прыклады і рашы іх.










**2** Знайдзі патрэбныя лікі.

| | | |
|---|---|---|
| □ – 6 = 5 | □ + 4 = 13 | □ + 5 = 15 |
| 13 – □ = 7 | 2 + □ = 9 | 15 – □ = 7 |

**3** Пастаў дужкі так, каб роўнасці сталі правільнымі.

12 – 4 + 8 = 0 13 – 8 – 4 = 1
12 – 4 + 8 = 16 13 – 8 – 4 = 9

**4** Дзеці гулялі ў «словы». Наташа прыдумала 30 слоў. Іра — 20 слоў. Сяргей — на 20 слоў менш, чым Наташа і Іра разам. Колькі слоў прыдумаў Сяргей?

**5** Цвік даўжынёй 10 см забілі ў дошку так, што з аднаго боку ён выступаў на 1 см, а з другога — на 5 см. Якая таўшчыня дошкі?




**6** Для букета купілі 19 гваздзікоў. Белых гваздзікоў — 7, жоўтых — 3, астатнія — чырвоныя. Колькі чырвоных гваздзікоў купілі для букета?

**7** Складзі прыклады па схемах і рашы іх.

| +7 | |
|---|---|
| 12 | |
| 10 | |

| −7 | |
|---|---|
| 19 | |
| 18 | |

| +6 | |
|---|---|
| 12 | |
| 13 | |

| −6 | |
|---|---|
| 17 | |
| 20 | |

**1** Калі са скрыначкі ўзялі 8 цукерак, то ў ёй засталося 12 цукерак. Колькі цукерак было ў скрыначцы?



**Задача.** Калі з адной скрыні прадалі 4 кг цукерак, а з другой — 8 кг, то ў дзвюх скрынях засталося 6 кг цукерак. Колькі кілаграмаў цукерак было ў дзвюх скрынях?

| Было | Прадалі | Засталося |
|---|---|---|
| ? | 4 і 8 | 6 |




**2** Вылічы паводле ўзору.

$18 - 3 - 8 = (18 - 8) - 3 = 10 - 3 = 7$

| | | |
|---|---|---|
| 11 – 2 – 1 | 16 – 7 – 6 | 12 – 5 – 2 |
| 12 – 3 – 2 | 15 – 7 – 5 | 18 – 9 – 8 |
| 16 – 6 – 5 | 17 – 8 – 7 | 16 – 9 – 6 |

**3*** Знайдзі заканамернасць і запоўні пропускі.

3, 6, 9, ☐, ☐, ☐, 21;

4, 5, 6, 9, 8, 13, 10, ☐, ☐.

**4** Рашы прыклады, дзе памяншаемае роўна 14.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14 + 6 | 7 + 7 | 14 – 8 | 14 – 7 |
| 14 – 5 | 2 + 14 | 14 – 9 | 14 + 1 |

**5** Вусна. Брат і сястра выйшлі адначасова: Коля — са школы дамой, а Маша — з дому ў школу. Праз 5 мін Коля быў бліжэй да дому, чым сястра да школы. Хто з дзяцей ішоў хутчэй?




**6** Як гэтымі гірамі ўзважыць 7 кг, 4 кг, 9 кг? Прапануй розныя спосабы.




**7** У магазіне прадалі спачатку 6 кавуноў, потым яшчэ 5. Засталося прадаць 9 кавуноў. Колькі кавуноў было ў магазіне?




**8**

| | | |
|---|---|---|
| 9 + 2 * 8 + 3 | 8 + 5 * 14 – 5 | 11 – 2 * 7 + 3 |
| 6 + 4 * 6 + 3 | 12 – 3 * 13 – 4 | 10 – 4 * 3 + 6 |

# Урок 53

**1** Тані трэба было рашыць 12 прыкладаў. Калі яна рашыла некалькі прыкладаў, ёй засталося рашыць 4. Колькі прыкладаў рашыла Таня?



**Задача.** Рыбак злавіў 5 шчупакоў і 7 акунёў. Некалькі рыб пайшло на юшку, і засталося 6 рыб. Колькі рыб пайшло на юшку?

| Было | Узялі | Засталося |
|---|---|---|
| 5 і 7 | ? | 6 |

**2** Запішы лічбамі лікі: сорак; пяцьдзясят два; дзевяноста; сто; дзевяноста адзін.

**3** Назаві разрадны склад ліку:
17, 25, 18, 77, 93, 99.

**4*** Запішы лік 20 сумай аднолькавых складаемых.

20 = ☐ + ☐

20 = ☐ + ☐ + ☐ + ☐

20 = ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐

20 = ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐ + ☐

**5** У вазе ляжала 9 яблыкаў і 7 груш. Для кампоту ўзялі 8 фруктаў. Колькі фруктаў засталося?

Спосаб 1




Спосаб 2




**6** Нарысуй два адрэзкі: першы — даўжынёй 1 дм 2 см, а другі — на 4 см карацейшы.

**7** Першую казку Вера прачытала за 20 мін, на другую спатрэбілася на 10 мін больш. На трэцюю казку пайшло столькі часу, колькі на першыя дзве казкі разам. Колькі часу Вера чытала трэцюю казку?




**8** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 13 – 6 + 7 | 19 – 9 + 6 | 13 – 7 + 7 |
| 9 + 4 – 3 | 13 – 1 + 6 | 18 – 8 + 6 |
| 8 + 6 – 2 | 18 – 9 + 3 | 13 – 3 + 9 |

**1** У скрыні ляжала 40 штук садавіны. Узялі 20 яблыкаў і некалькі груш. У скрыні засталося 10 апельсінаў. Колькі ўзялі груш?



**2**

| | | |
|---|---|---|
| 96 – 90 * 5 | 91 + 1 * 93 | 98 – 8 * 91 |
| 85 – 80 * 8 | 72 – 2 * 79 | 35 – 5 * 30 |
| 33 – 3 * 36 | 70 + 5 * 75 | 80 + 6 * 85 |

**3** У адным струку 7 гарошын. Колькі гарошын у двух такіх струках?




**4*** Якія лічбы схаваныя?

**5** Падлічы трохвугольнікі.



**6** Брату 15 гадоў, а сястры — 8. Колькі гадоў будзе брату, калі сястры стане 13 гадоў?

**7** Купілі 90 кг бульбы. За восень з'елі 20 кг, за зіму — яшчэ некаторую колькасць, пасля чаго засталося 10 кг бульбы. Колькі кілаграмаў бульбы з'елі за зіму?

| Купілі | З'елі | Засталося |
|---|---|---|
| 90 | 20 і ? | 10 |

**8** Вылічы.




**9** Запішы лікі, у якіх колькасць дзясяткаў на 2 большая за колькасць адзінак.

**10** Даўжыня першага адрэзка — 7 см, другі адрэзак даўжэйшы за першы на 4 см. Знайдзі суму даўжынь гэтых адрэзкаў.




**11** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 63 – 60 | 48 – 40 | 90 + 3 |
| 98 – 90 | 61 – 60 | 92 – 2 |
| 74 – 70 | 65 – 60 | 98 – 8 |

# Урок 55



12 – 8 + 4 = 8 (12 – 8 = 4; 4 + 4 = 8)

20 – 7 – 4 = 9 (20 – 7 = 13; 13 – 4 = 9)

У выразах без дужак, якія змяшчаюць дзеянні складання і аднімання, дзеянні выконваюцца па парадку (злева направа).

**1** Вылічы.

40 – 20 + 50    15 + 5 – 10    100 – 20 – 30

50 + 40 – 90    40 + 10 – 50    90 + 10 – 100

**2** На рысунку паказаны **многавугольнікі**. Назаві нумары трохвугольнікаў; чатырохвугольнікаў; пяцівугольнікаў.












**3*** Па закадзіраваным на рысунку правіле знайдзі фігуры, якія трэба нарысаваць замест знакаў «?».



□ → ? → ? → ? → ?

■ → ? → ? → ? → ?

**4** Якія лікі прапушчаны?

☐ дм = 40 см

7 дм = ☐ см

☐ дм ☐ см = 53 см

8 дм ☐ см = 89 см

☐ дм 3 см = 73 см

☐ дм ☐ см = 65 см

**5** Да Дня маці вучні другога класа падрыхтавалі 20 нумароў для канцэрта. Песень — 8, вершаў — 11, а астатнія нумары — танцы. Колькі танцаў падрыхтавалі вучні?

**6** На колькі метраў даўжыня найбольшай стараны трохвугольніка меншая за суму даўжынь дзвюх іншых яго старон?




**7** Для ўпрыгожвання навагодняй ёлкі купілі 10 чырвоных і 9 белых шароў. Глеб павесіў на ёлку 5 шароў. Колькі шароў засталося павесіць на ёлку?

| Было | Узяў | Засталося |
| --- | --- | --- |
| 10 і 9 | 5 | ? |

**8** Запішы лікі сумай разрадных складаемых: 27, 19, 77, 98.

## Урок 56

**1** У класе 12 дзяўчынак і 8 хлопчыкаў. Трое вучняў адсутнічаюць з-за хваробы. Колькі вучняў прысутнічае ў класе?

Спосаб 1




Спосаб 2




Спосаб 3




**2** Запішы лікі 0, 17, 21, 49, 100, 99 па спаданні.

**3** Сума даўжынь старон трохвугольніка роўна 20 см. Даўжыня адной са старон роўна 9 см, а другой — 6 см. Знайдзі даўжыню трэцяй стараны.

**4** У баку машыны было 20 л бензіну. Колькі літраў бензіну далілі ў бак, калі пасля запраўкі ў ім стала 40 л?



**5*** Пастаў у акенцы лікі 2, 3, 5, 6 так, каб роўнасці і няроўнасці сталі правільнымі.

□ + □ = □ + □

□ – □ = □ – □

□ + □ > □ + □

**6** (>, <, =)

20 + 30 * 30 + 20 70 – 20 * 70 – 30
30 + 40 * 30 + 30 60 – 40 * 80 – 40

**7** На стале ў настаўніцы ляжыць 10 сшыткаў у клетку, 20 сшыткаў у лінейку і 2 кнігі. Колькі ўсяго сшыткаў ляжыць на стале?

**8** Запішы разрадны склад ліку: 18, 81, 63, 97, 100.

**9** У кнізе 18 вершаў. 8 з іх вершы Янкі Купалы, 7 — Якуба Коласа і вершы Петруся Броўкі. Колькі ў кнізе вершаў Петруся Броўкі?

**10** Вылічы.

20 – (13 – 5) 12 – (16 – 8) (100 – 1) – 9
94 – (11 – 7) 16 – (13 – 4) (69 – 9) – 1



**1 г = 60 мін**

Які час паказваюць гадзіннікі?







**1** Алесь пачаў рабіць урокі ў 2 г 45 мін і закончыў у 3 г 30 мін. Колькі часу працаваў Алесь?





**2*** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад.




**3** Запішы лікі 16, 35, 28, 61, 19, 42, 54 сумай разрадных складаемых.

**4** Дзяжурныя ў класе палілі 5 пакаёвых раслін, засталося паліць яшчэ 9. Колькі ўсяго пакаёвых раслін было ў класе?

**5** ≥<= 

| | | |
|---|---|---|
| 25 * 50 | 6 дм * 3 см | 1 г * 60 мін |
| 59 * 61 | 5 дм * 50 см | 1 г * 75 мін |
| 99 * 10 | 6 м * 66 см | 1 г * 1 мін |

**6** З агарода прынеслі 8 морквін і 6 буракоў. Каб прыгатаваць боршч, спатрэбілася 3 караняплоды. Колькі караняплодаў засталося?



**7** Нарысуй адзін адрэзак даўжынёй 1 дм 2 см, а другі — 7 см. Знайдзі суму даўжынь гэтых адрэзкаў. На колькі сантыметраў адзін адрэзак даўжэйшы за другі?

**8** Урок пачаўся ў 8 г 30 мін і працягваўся 40 мін. Які час пакажа гадзіннік у канцы ўрока?



**9** ≥<= Параўнай, не вылічваючы.

| | |
|---|---|
| 43 – 20 * 53 – 20 | 96 – 10 * 69 – 10 |
| 63 – 40 * 63 – 50 | 45 – 30 * 45 – 20 |

# Урок 58



У які час адбываюцца падзеі?





7 гадзін раніцы





2 гадзіны дня





7 гадзін вечара





2 гадзіны ночы

**1** Мама пайшла на працу ў 9 г раніцы і вярнулася праз 8 г. У які час мама вярнулася з працы?

**2** Запоўні пустыя акенцы.

| | | |
|---|---|---|
| 26 + ☐ = 29 | 30 + ☐ = 50 | ☐ + 0 = 20 |
| ☐ + 1 = 21 | 60 – ☐ = 20 | 0 + 11 = ☐ |
| 20 – ☐ = 19 | ☐ – 20 = 30 | 20 + ☐ = 27 |

**3** На колькі адзін лік кожнай пары большы за другі: 80 і 60; 70 і 90; 59 і 58; 9 і 10; 99 і 100?

**4** Вася купіў 30 марак на тэму «Птушкі». Пасля таго як ён змясціў у альбоме некалькі марак, у яго засталося 10 марак. Колькі марак змясціў у альбоме Вася?



**5** Колькі двухзначных лікаў, большых за 25, заканчваюцца лічбай 5? Якія гэта лікі?

**6*** Прадоўжы рады лікаў.

2, 7, 12, 17, ... .
39, 35, 31, 27, ... .
24, 19, 14, ... .



**7**

Бананаў — 12
Лімонаў — 7
Ананасаў — ?
} 20

**8** ±

| | |
|---|---|
| 30 * 0 = 30 | 40 * 40 = 0 |
| 40 * 20 = 60 | 100 * 70 = 30 |
| 60 * 60 = 0 | 30 * 20 = 50 |



43 + 5 = ☐

43 + 5

| |
|---|
| 3 + 5 = 8 |
| 40 + 8 = 48 |

**1** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 17 + 2 | 24 + 3 | 15 + 3 | 42 + 7 |
| 21 + 4 | 82 + 7 | 25 + 4 | 53 + 4 |
| 43 + 5 | 45 + 4 | 74 + 3 | 61 + 8 |

**2** Павяліч лікі 41, 53, 72, 94 на 4.

**3** Шахматная партыя працягвалася 2 г 45 мін і закончылася ў 5 г вечара. Калі пачалася гульня?




**4*** Знайдзі рознасць найбольшага ліку чацвёртага дзясятка і найбольшага ліку першага дзясятка.

**5** Знайдзі памылкі, вылічы правільна.

| | |
|---|---|
| 12 – 2 – 1 = 8 | 16 – 6 – 2 = 7 |
| 11 – 1 – 4 = 6 | 15 – 5 – 2 = 8 |
| 14 – 4 – 8 = 4 | 13 – 3 – 4 = 8 |

**6** Што больш: 2 дзяс. або 2 адз.; 2 дм або 2 см; 2 м або 20 дм?

**7** У актавай зале 100 пасадачных месцаў. Спачатку свае месцы занялі 30 гледачоў, а потым — яшчэ столькі ж. Колькі свабодных месцаў засталося ў зале?

**8** Для ўрокаў працоўнага навучання купілі 10 м сіняй стужкі, 20 м чырвонай, а зялёнай столькі, колькі сіняй і чырвонай стужкі разам. Колькі ўсяго метраў стужкі розных колераў купілі? Што абазначаюць запісы:

10 + 20;    10 + 20 + 30;    20 – 10;    30 – 10?




**9** Тату трэба было пасадзіць 18 кустоў малін. Раніцай ён пасадзіў 7 кустоў, а вечарам — 6. Колькі кустоў малін яму засталося пасадзіць?

**10** Вылічы.

| | |
|---|---|
| (40 + 5) + 3 | (100 – 80) + 40 |
| (70 + 4) + 5 | (5 – 5) + 7 |
| (25 + 4) + 1 | (95 + 3) – 8 |
| (30 + 5) + 5 | (85 + 5) – 10 |

## Урок 60



57 + 3 = ☐

57 + 3



7 + 3 = 10
50 + 10 = 60



**1** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 13 + 7 | 37 + 3 | 28 + 2 | 89 + 1 |
| 35 + 5 | 15 + 5 | 43 + 7 | 68 + 2 |
| 29 + 1 | 44 + 6 | 69 + 1 | 54 + 6 |

**2** Складзі па рысунку задачы, якія рашаюцца так:

| | |
|---|---|
| 30 + 10 | 40 – 10 |
| 30 – 10 | 40 – 30 |




**3** Сума двух лікаў роўна 50. Першае складаемае роўна 30. Знайдзі другое складаемае. Зрабі вывад.

**4** Адно звяно ломанай 1 дм 2 см, а другое на 8 см карацейшае. Нарысуй такую ломаную і знайдзі яе даўжыню.

**5*** Брат вышэйшы за сястру на 3 см, а мама вышэйшая за сына на 18 см. Параўнай рост мамы і дачкі.

**6** Для апрацоўкі фартуха маме спатрэбілася 30 см тасьмы, а для сукенкі — 20 см. Пасля гэтага ў мамы засталося 50 см тасьмы. Колькі тасьмы было ў мамы?

| Было | Узялі | Засталося |
|---|---|---|
| ? | 30 і 20 | 50 |

**7** Адна шахматная партыя працягвалася 30 мін, а другая — 20 мін. Які час працягвалася трэцяя партыя, калі на ўсе тры партыі была затрачана 1 г?




**8** ><=

1 м * 3 м
6 дм * 60 см
1 г * 80 мін

7 см * 7 дм
1 г * 60 мін
40 мін * 1 г 20 мін

**9** Сліў столькі, колькі груш і яблынь разам.
Колькі груш і сліў?




**10** Вылічы.

20 + 6
80 + 5
50 + 9

27 + 3
46 + 4
23 + 7

83 + 7
36 + 4
42 + 8

33 + 7
41 + 9
74 + 6



28 – 5 = ☐

28 – 5

8 – 5 = 3
20 + 3 = 23

**1** Вылічы.

37 – 3 27 – 4 29 – 6 46 – 5
69 – 5 48 – 3 48 – 7 38 – 4

**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

да сумы лікаў 45 і 5 дадаць 10;
ад сумы лікаў 25 і 5 адняць 20;
да ліку 50 дадаць рознасць лікаў 15 і 10.

**3** Казка пачалася днём у 2 г 45 мін, а закончылася ў 3 г 15 мін. Колькі часу працягвалася казка?




**4** У каробцы было 40 цукерак. Раніцай з'елі 10 цукерак, а вечарам — яшчэ некалькі. Пасля гэтага ў каробцы засталося 20 цукерак. Колькі цукерак з'елі вечарам?

**5** Даўжыня стужкі 6 см. Яе трэба разрэзаць на часткі, даўжынёй 1 см кожная. Колькі разрэзаў трэба зрабіць?

**6*** Бабёр цяжэйшы за зайца на 3 кг. Якая маса аднаго бабра, калі маса двух баброў роўна масе пяці зайцоў? Якая маса зайца?




**7** Запоўні пустыя акенцы.

| | |
|---|---|
| ☐ + 5 = 15 | 5 + 5 + ☐ = 16 |
| 3 + ☐ = 13 | 6 – ☐ + 10 = 12 |
| 13 – ☐ = 10 | ☐ + ☐ – ☐ = 12 |

**8** Запішы лікі, у якіх: 7 дзяс. 7 адз.; 5 дзяс.; 6 адз. 2 дзяс.; 8 дзяс. 4 адз.

**9** Алесь і Стас стаялі на адлегласці 20 м адзін ад аднаго. Якая адлегласць будзе паміж імі, калі кожны з іх пройдзе яшчэ па 10 м?




**10** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 40 + 5 | 57 + 3 | 64 – 3 | 47 – 3 |
| 20 + 7 | 63 + 7 | 79 – 1 | 59 – 6 |



40 – 3 = ☐




10 – 3 = 7
30 + 7 = 37

**1** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 60 – 1 | 80 – 2 | 90 – 7 | 25 + 5 |
| 60 – 4 | 50 – 4 | 80 – 6 | 34 + 6 |
| 90 – 4 | 70 – 3 | 30 – 8 | 59 + 1 |
| 70 – 6 | 20 – 8 | 40 – 9 | 42 + 8 |

**2** Складзі задачу па рысунку і рашы яе. Складзі адваротныя задачы, якія рашаюцца так:

9 + 11 = 20 (м)     20 – 11 = 9 (м)



**3*** На дзвюх талерках па 20 сырнікаў. З першай талеркі ўзялі 8 сырнікаў, а з другой стольspringкі, колькі засталося на першай. Колькі ўсяго сырнікаў узялі? Колькі сырнікаў засталося?




**4** За 1 г у бочку ўліваецца 10 вёдзер вады, а выліваецца 7 вёдзер. Колькі вёдзер вады нальецца ў бочку за 1 г? За 2 г?

**5** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 17 * 27 – 7 | 38 + 2 * 38 – 2 |
| 48 * 38 + 2 | 75 – 5 * 75 – 2 |
| 59 * 59 – 9 | 84 – 4 * 84 + 4 |
| 63 * 63 – 3 | 50 – 7 * 50 – 9 |

**6** Бабуля разам з унучкай прачыталі 28 старонак кніжкі. Унучка прачытала 4 старонкі. На колькі больш старонак прачытала бабуля?

**7** Знайдзі невядомае складаемае; аднімаемае.

| | | |
|---|---|---|
| 40 —(+ □)→ 42 | 53 —(– □)→ 50 | 60 —(+ □)→ 64 |
| 30 —(+ □)→ 36 | 71 —(– □)→ 70 | 90 —(+ □)→ 97 |
| 77 —(– □)→ 70 | 85 —(– □)→ 80 | 35 —(– □)→ 30 |

(Назва і нумар установы адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча навучэнца | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака навучэнцу за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Чабатарэўская** Тамара Мацвееўна
**Нікалаева** Валянціна Уладзіміраўна

**МАТЭМАТЫКА**

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У 2 частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Заг. рэдакцыі *Г. А. Бабаева*. Рэдактар *Л. М. Ясніцкая*. Мастакі *А. В. Філіпёнак, В. Г. Шведаў.* Мастацкі рэдактар *А. А. Валатовіч*. Тэхнічны рэдактар *І. І.* Дуброўская. Камп'ютарная вёрстка *Т. В. Свірыдзенкі, І. І.* Дуброўскай. Карэктары *В. С. Бабеня, А. П. Тхір, Г. В. Алешка.*

Падпісана ў друк 05.03.2016. Фармат 70 x $90^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура журнальная рубленая. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 9,36 + 0,29 форз. Ул.-выд. арк. 4,69 + 0,31 форз. Тыраж 10 200 экз. Заказ .

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Народная асвета» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/2 ад 08.07.2013. Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск, Рэспубліка Беларусь.